# ПАЭМА ВЫНІКУ

Напоўніўся весткаю позірк,
а слых цішынёю...
Рукі,
што бралі, усё аддалі, не ўтрымаўшы,
і аддаюць:
раняць патайна рэчы,
якія сабе мець хочам,
і ўсё, што ні хочам,– раніць...
Блаславёны, хто ўбогі...
хто плача...
хто церпіць...
і хто сябе аддае беззваротна...
Звязаліся дні ў сем дзён –
кожны прычынай і вынікам кожнаму,
а за паземам тамлее восьмы,
і вестка адтуль:
хто сябе аддае беззваротна...
Крыніцы праточваюцца на паверхню:
і незлічоныя токі,
і незлічоны атожылкі вечнага дрэва,
якія яшчэ не спазналі сваё прызначэнне –
жыць дзеля чагосьці...
Не сумнявайся
і не шукай апраўдання для весткі:
заквашаны ёю, ўзыходзіць сусвет,
пераўзыходзячы грані пярэчання:

...калі б я была табою...
і грані прапорцыі – я: ты: мы...

Існуем знікаючы...
Маналогі
наслойваюцца, пераплятаюцца
і пранікаюць адзін у адзін,
быццам у лесе «я» адзываецца «я»...
Сем колераў у адным,
змясціўшыся, не змяшчаюцца,
і не ўмяшчаецца наша бясконцасць
у карані і галіны:
да заўтра...
Былі на вяселлі –
даводзіцца быць на хаўтурах
і там, дзе яшчэ не былі і не будзем...
Ці нарадзіўся, хто зможа...
ці выспеў, хто паспрабуе
падняць запаветную ношу –
цяжар, што схіляе долу зямныя плямёны...
Гэта ўяўленне:
ўяўляем уяўнае...
Блізіцца вечар – і незаўважна
мы пераходзім у цень і цемру...
А маналогі,
як пальцы рукі апусцелай,
распроствюцца і ўдакладняюць
каардынаты быцця і асобы.

Яблык быў проста яблык,
і мы ішлі адваротна адзін аднаму –
насустрач,
а пасляслоўе такое доўгае,
такі ўстойлівы прысмак сустрэчы і яблыка,
і вынік не канчатковы...
Прадбачу цябе
і думкі

скіроўваю да цябе...
Непаўторна
ты паўтараешся ў сутным –
у новых сустрэчах і тварах,
у новых імёнах і промнях,
і рухаешся насустрач...

След пастаянны і пастаяннае сонца
дамалявалі, спаткаўшыся,
лінію спраўджвання –
                                        круг незамкнёны...
Паказваюць компас і ветраўнік вынік,
вынік чагосьці –
што існавала да іх...
                                    і да нас...
                                              і да выніку...
і да таго як лічыць перашкоду апорай,
бязлітаснасць дыялектыкай,
а стадыёны прыстанішчам духу...
І ноч павядзе з сабою,
і зблытаеш лік і меру,
і зашчымяць успаміны –
суровы арыенцір:
насупраць...
насустрач...
калі найцяжэй...
Насустрач пазему і выніку,
насустрач прычыне –
                                        там,
на безназоўным дзядзінцы,
бруіцца жывая крыніца...
І ў вестцы –
                        грань павароту...
Раскручваецца паступова
клубок, бегучы наперад,
сонечны зайчык упарта не ловіцца ў жменю,
і вынік усё ніяк

не выкажацца за прычыну.
Што пакідае штачасна нас,
што мы пакідаем штачасна
і з чым развітваемся: да заўтра?..
Спадае
на кожны пакінуты след па лісціне –
барвовай ці жоўтай,–
але таксама пакінутай.

(Якая пара на душы
                                        між парой выкуплення?..
Цёмныя хмары бягуць,
                                            як на прыступ,
але нічога нідзе няма
спапяляць і няможыць,
самі знямогуцца –
                                        і неабсяжнасць
іх утаймуе...
рассее...
забудзе...
Вочы расплюшчу:
                                        нязвыкла вачам
глядзець на дым пастуховы
і дым земляробавы –
згодна абое
да вышыні далучаюцца...
Верадам быць
                                акупляецца вынік...)

Уладары разнамоўных плямёнаў
задумваюцца неспадзявана,
больш чым пра межы ўладанняў і ўплыву,
пра межы быцця,
                                        пра плыннасць
поспеху і ўзвышэння...
Раскрыжаваныя ў целе,
не чуем сябе,
                                не бачым,

што вусцішна зеўраць прагалы
у побыце і быцці.
Кім вынайдзены занятак,
які так заняў плямёны,–
спрачацца і адмаўляць,
задавальняцца і нішчыць?..

Агонь да агню прыкладу...
камень да каменя...
Іхнія сколы і выступы,
неаднароднасць... няроўнасць...
дзіўна пасуюцца і ўтвараюць
нейкую цэласнасць... нейкі ансамбль...
вынік, які быў калісьці парушаны...
Уздрыгвае ўражаны позірк,
падгледзеўшы раптам сябе ў раптоўным,
быццам будую – будую назад,
да самай прычыны,
праз дні і праз вынік...
Камень да каменя...
агонь да агню...

...І хто сябе аддае беззваротна –
свету, ў якім жывеш,
свету, які ўяўляеш,
свету, які, ашчаджаючы вестку ад нас,
нас ашчаджае для весткі...
Дзе аддаецца – там захаваецца:
смягну!..–
не поўны...
не збыты...
тутэйшы...
Якая вада – жывая?..
Укінуў галінку шыпшыны ў крыніцу:
згарэла галінка,
укінуў другую ў другую:
згніла і званела,

укінуў у трэцюю трэцюю:

зазелянела...

Двойчы смяецца нячысцік,
двойчы ўмірае галінка...
А ноч абірае дарогу ўнутры –
і я цябе не ўратую,
не напаю з крыніцы...

І мову тваю люблю,
і ўжо не магу растлумачыць...

Поўніцца намі

агонь і каменне...

# ПАЭМА МАЛЕНСТВА

*Памяці Анатоля Фясько*

У досвітак весні,
нібы самалёт катастрофны,
ўварваўся вецер –
і застагналі старыя весніцы,
і затрымцелі дзынкія шыбы,
і захадзілі дзверы...
Вецер, адчайны вецер,
навошта б'ешся аб хату –
хату маленства,
і шкамутаеш вярбіны,
пасаджаныя маленствам,
і абрываеш сцежку,
вытаптаную маленствам?!
Не мае вецер адказу,
апрочкі сябе самога...
Ад самага краю часу,
адкуль ніхто не прыходзіць,
знішчальны і непапраўны
нарваўся – шалець і плакаць
і непрытомна апасці
каля парога маленства.

Калі яшчэ не світала
і я быў вакол - і ў цемры,
чый голас мяне паклікаў?..
Паклікаў, нібы назваў

ці адгадаў у хованках –
я адгукнуўся...
                                І тут жа
запульсавалі суладна
вакол-і ўва мне хвіліны,
наблізілася рэчаіснасць,
узноўленая праз мяне.
... На століку адмысловым
стаіліся яе сімвалы –
што выбераш для душы?
кудою пойдзеш...
Прывабна
паткнуліся ў дзве рукі
у імпульсе безразважным
разам люстэрка і кніга:
я ўзяў іх сабе...
                                    А побач
на зломе святла і цемры
трымцела чыясьці прысутнасць
і раставала ў світанку.

Закружаныя, ў траву
падалі бездапаможна,
і раскружвала нас зямля
па размашлівай траекторыі...
Бы прасіліся: не адпусці –
уціналіся колькі моцы
у яе прыцягальнасць і цвёрдасць,
баючыся раптам сарвацца
у глыбока-глыбокую прорву
пад намі... У ёй,
забіраючы нашы пагляды,
як срабрыстая мара, бязважка
плыў, знікаючы, самалёт.

Няўжо рэчаіснасць – толькі
дрэвы і небасхіл,

замкнёныя кругазваротам?..
І сцежкі людскія, замкнёны,
і парыванні таксама –
дзіўны працэс без мэты:
няўжо гэта зведаць – усё?!.
Але не спыняліся хвілі,
люстэрка было невідушчае,
кніга нямая...
                    На дрэвах,
на небасхіле і людзях
завязвалася ў вузлы,
выцягвалася ў маршчыны
таемная піктаграфія,
бы хто пакідаў сляды,
знікаючы ў невядомасць...
Як выявіць мне яе,
як разамкнуць замкнёнае?

Вяртаюся адвячоркам
са школы бязлюднай вулкай
(пакінуты пасля ўрокаў,
асвойваў гукі мовы),
а над вясковымі стрэхамі –
рукой дацягнуцца – месяц,
такі незнаёма-блізкі,
як госць з дарогі.
Да самае хаты пільна
вяду яго,
                    ў дзверы заходжу –
і прыпыняюся: месяц
свеціцца проста ў вочы...
Я крою жытнёвы бохан
і думаю, што аднойчы...
і мару, што некалі...–
ўсе мары мае пра будучыню,
азораную, бы цяпер...
Вісіць над маленствам месяц,
з якім я больш не спаткаўся.

Даісны мой абавязак
наканаваў турботу
і засяродзіўся ў слове
малечай гульні: шукаць...
Напаўзабытыя хованкі:
знойдзены, мушу знаходзіць –
а ўвесь напрамак-прыкмета:
...таго, хто існуе не тут.
І разгарнулася кніга,
і ўзніклі малюнкі ў люстэрку:
далёкае каралеўства,
шырокае поле, на ім
высокае дрэва, на дрэве –
куфар жалезны, у куфры –
заяц імклівы, у зайцы –
шызая качка, у качцы –
яйка, у яйку – іголка,
ўся сутнасць у вастрыі...

Абдымкі мае пустыя,
пагляды мае бязмэтныя,
клічу цябе без водгуку,
а пад маімі рукамі
ўгінаецца і вызлізгвае
пруг стромай палонкі,
з якой
мне ўжо не выбіцца...
То-о-о-ля!..

Мы разам пайшлі,
а мэту
трымалі люстэрка і кніга,
сонца было паўсюды,
а месяц – куды ішлі...
Усе скрыжаванні свету
перабіралі нас вобмацкам
і адпускалі далей.
Зацягваўся, як пятля,

вымашчаны спадзяваннем
шлях наш бесперастанны
і аддзяляў ад маленства,
дзе мы пазнавалі заўсёды
адзін аднаго па абліччы.
Услед нам кувала зязюля,
а мы не ведалі выніку,
не ведалі, дзе канчаецца
крыніца сусвету – маленства.
Ты першы неспавядальна
даткнуўся да вастрыя...
Акрылася чорным люстэрка,
і чорныя літары кнігі
збегліся ў слова: смерць.
Час прыпыніўся.
                    Сцюжна
павеяла з наваколля...

Дык вось што мы ўрэшце шукалі,
на што спадзяваліся ўпарта,
вось што мяне абудзіла
і зменліва павяло...
Нас абміналі памылкі,
каб анікуды не збочылі
і ў існаванні не сціхлі;
тысячы выпадковасцей
не сцялі нашай дарогі
на самым яе вытоку,
ратуючы нас для смерці:
0 хованкі – горкі час!..

Жывыя нашы адбіткі
лучаць лісты хларафілу,
1 пругкія промні, як вены,
даносяць да сонца,
і азярыны рачныя
загортваюць у туманы...
Як ад гнязда небяспеку

адводзіць балесная птушка,
адводзім смерць ад маленства
умова ва ўмове –
з сабой...
Знябытыя каардынаты –
ужо не хапае звароту
вырвацца з-пад прыцяжэння
і нанава напаткаць
радзіму, куды больш ніколі
не завітае смерць.

Ты больш не скажаш нічога:
ў руцэ бесстаронняй багіні
вагаюцца спрэчныя шалі...
Я ведаю зараз:
                                        гэта –
маленства і смерці шалі;
бачу:
            світанкам веснім
на даўняй планеце маленства,
на вечнай тваёй планеце
парастак прамянее...

# БЫЛО БАЛОТА

## I

Як альшына мая — з-пад піл,
як вужака мая — з-пад бота,
застагну,
упаду ў нахіл...
Напачатку было балота.

Не вядзьмарка — не ажыву:
як душа пакідае цела,
апантанасці і жніву
уступаю свае надзелы.

Па адстойніках і равах,
праз малыя і буйныя рэкі
паўтараецца даўні шлях,
мой апошні —
з вараг у грэкі.

Пераходзілі эры,
святло
пагасала,
і сутарэнні
нагрувашчваліся —
было:
першаіснасць... пераўтварэнне...

Немаўленства сівой зямлі —
скамянее:

пасля спарону...
Навакольныя дрэвы знялі
свае велічныя кароны.

Бор далёкі вее бяду,
ахінаецца ў пыл і дрымоту...
Неспадобнае – адыду...
Напачатку было балота.

Вызначаючы цемру і бель
і жыццёвыя пуцявіны,
ўсцяж
праносілася мадэль
жыццядайнай душы буслінай.

Разляцеліся ўсе буслы –
расцярушыліся абяцанкі:
што насілі,
тым абняслі...
Бы кругі на вадзе – буслянкі.

Аднадзённы і хлеб і век...
Нерухомее горада постаць...
На няўцямныя поспех і спех
наклікаецца цямная помста.

Наганяючы небыццё,
навастрыліся аэрадромы...
Хай вядома ўсім: леціце...
залятаеце ў невядома...

З'явы звязваюцца ў чаргу,
надыходзяць
неспадзявана!,.
Каб зыначыцца – не змагу,
выпадае: само не стану...

Далягляд, бы ў слязе, ў смузе...
Дзе шукаюць каровы напіцца –

хмара дольняя папаўзе...
Перасохлі мае крыніцы.

Разгубіліся пацеркі з рук —-
журавіны...
Імшар сівее...
З раўнавагі – у збойны зрух:
прачынаюцца сухавеі.

Вымкне будучыня маной,
непадманная – засумуе...
Плача кнігаўка нада мной,
хто аплача яе самую?..

II

Баламуцячы сілу ліхую,
сінявокі, як дзень, валхвец –
у балоце глухім валхвуе
экскаватаршчык Абравец.

Нібы здані з дрыгвы паўсталі...
На гнілыя калоды, на мхі,
на паганыя воды ссылалі
дух нячысты і дух ліхі.

Індульгенцыя на памылкі:
прэч з абседжанага жытла...
Быццам скончаны тэрмін ссылкі
ці амністыя надышла.

Пойдзеш коса ці пойдзеш проста –
не натрапяцца грэбля і гаць...
На усе навакольныя вёрсты
вокі чортавыя глядзяць.

Булькаценне... пасма рудая...
павуцінне... кшакі... брыжы...

Ноч настане – ад небакраю
паварушваюцца міражы.

Чорным дымам душаць дыханне
белай немаччу цвіляць кроў,
сутыкаюць,
                                нібы ў яднанні,
        скрыгат сталі і рык звяроў.

У крутыя звіваюць завівы
непадобныя паясы,
адчыняюць нябесныя злівы
і падземныя галасы.

Патаемныя твораць чары
з чалавечых дзей і выснаў...–
І ўстаюць –
                            тут і там –
                                                    пачвары:
грозны перад- і пасляслоў.

То не вочы цямнеюць – вачніцы,
целы круціць і торгае шал,
і вар'яцкая ўсмешка шчыміцца,
агінаючы рота правал...

Абравец, ты ўздыхаеш, нямы,
і нібы ад нуды заразнай,
не адробішся ад думы,
доўгай-доўгай і невыразнай.

І балота з табою ўздыхае,
непрытомныя сны снуе –
быццам маці, закалыхае,
быццам мачаха, апаўе.

Пракаветны балотны нораў –-
не заб'ецца,
                            не ўздыме бунт...

Рассцілаецца: у пакоры,
адымае – ў пакоры – грунт...

Прахапляешся незвычайна –
захлынаецца ў твані карэц,
экскаватар хрыпіць адчайна...
Абрываецца Абравец,
вырываецца...

А назаўтра –
тросы вытрымалі б хаця –
экскаватар, як дыназаўра,
вынатужваюць з небыцця.

Залучыла балота ўпотай –
ні двара ў цябе, ні кала.
Ды ўжо хутка:
                        было балота...–
і пра будучыню:
                        была...

III

Рай адняты –
будуем рай...
Каб усё ў адну долю звесці,
аблажыла балотны край
экскаватарнае нашэсце.

Стрэлы выцягнуліся здаля:
не дацягнуцца – сцягнуцца ніты:
ахне ўражаная зямля,
разарваная дынамітам.

Па сваіх законах цвіла,
стала мала такой карысці –
будзе служкаю ля стала:
ўрыхтавалі прыродзе выйсце.

Ўздоўж і ўшыр – ля нарэзу нарэз.
Па крамяных маіх світаннях
перасоўваецца прагрэс,
збалансоўваючы на сланях.

Безаглядна, як рэжа штых,
рассякаюцца краявіды,
выпрамляецца кожны штрых:
геаметрыя па Еўкліду.

Разлічылі –
куды падзець,
куды ўкласці імпэт і працу...
Захапляльна наўзбоч глядзець,
ды пакутліва азірацца.

Абравец, памарудзь... замры...–
цяжка ўеліся твае лукі
і ў цякучае цела зары,
і ў свінцова-газетныя друкі.

Твой здабытак табе чужы –
бы душу атачыла сажа...
Што адолена – адкажы...
Што знядолена – хто адкажа?..

Зацягнуўся ахвярны прэк...
Ды вышэй калатні і прэку
прыўзнімаецца чалавек
у зняпэўненым чалавеку.

...Ураўняліся яма і груд,
і дарога гудзе скразная...
Я прыеду ў знаёмы кут
і знаёмага – не пазнаю.

Буду доўга тлуміць брыво:
іншы голас...
іншыя людзі...

іншы вынік... –
а скажуць: было,
і пра сёння,
як некалі: будзе.

Ці хвалю яго, ці люблю –
ў ім бяссілле сваё і сіла...
У прызначаны час на зямлю
пераможнае
заступіла...

І саступіць...
Што на дварэ
усталюе назаўтра?.. на потым?..
Што пакіне і што забярэ?

Напачатку
было
балота.

## ПАЭМА ВЯХІ

I

Сыплецца шоргат...
Што зрушылася
І набліжаецца, даганяюць! шоргат,
ацелясняючы шоргат?..
Можа, гэта перасыпаецца
пясчаны гадзіннік твайго жыцця
ці асыпаецца недзе магіла, выкапаная
дачасна...
Стульваецца твой пакой,
абдзелены цяплом, якое прыдасца іншым,
сціскаецца твой абсяг,
нелітасцівы табе і востры,
у набліжэнні таго, што зрушылася,
што каторую ноч слухаеш неадрыўна...
Сыплецца шоргат...
Недзе на Міншчыне, Віленшчыне,
Магілёўшчыне ці Задзвінскай зямлі
шархацяць сярпы жнеяў і жытнёвыя каласы,
а тужлівая песня нічога не можа парушыць,
адно – дадаць і дапоўніць:
і прыгажосці, і смутку...
Ці быў ты калі шчаслівы,
каб быць шчаслівым заўсёды?
Сцішана шархацяць босыя крокі вандроўніка:
добра быць коласам,
але шчаслівы той, каму давялося быць васільком...

Каму давялося быць васільком у жыце...
Ніхто ні аб чым не здагадваецца,
і толькі музыка ўзіраецца ўслед небасхілу,
а васілёк – услед каласам...

II

Безвач, як ад балючасці, так разбрыліся,
абарваўшы жывую сувязь, якая таму і балела,
што бараніла ад небыцця,
разбрыліся, край, твае радакі
і затапталі сляды, каго бачылі,
але не запомнілі...
Жылі – то здалёку, то зблізку...
А быў надзённа-бязлітасны захад,
і быў надзённа-крывавы ўсход,
і хацелася жыць надзённа...
На колькі сцежак паболела,
на колькі магіл паменела
зямля, з якой немагчыма спрачацца,
бо ва ўсе калены і роды яна свая?!
Песня запомніла:
прыйшлі з чужыны ў ваш вольны край,
а вы ідзяце ў чужыну з нявольнага краю...
Сыплецца шоргат...
Ці дадзена каму жыць непакутліва
і забіраць паступова ад маці
бясконца вялікі цяжар,
які ва ўсім называецца моцай,
а ў ёй аніяк: растаюць маці,
нібы світальны туман...
Больш не мелі з сабою ўзяць,
узялі, колькі змясцілася ў жмені,
зямлі – ад бяды,
колькі змясцілася ў жмені,
жытнёвага зерня – на долю

і калівы васількоў – на шчасце...
І задумёны музыка пайшоў за ўсімі...

III

Страшны цяжар твой... Баляць надарваныя грудзі:
столькі абраўшы, не ўтрымліваюцца на паверхні.
Марудна і неадольна навек адусюль адыходзіш,
адыходзіш у мякка-падатлівы дол...
Суцешся... Але не суцешыцца сэрца веданнем,
што час твой, твой час,
каб здзівіцца і ўразіцца,
мог быць яшчэ карацейшы,
а мог і наогул не выпасці...
Са ўздыхам і выдыхам гайдаецца час чалавека
(кожнаму не пароўну: кожнаму меней думкі),
уражваючы, і здзіўляючы, і рассыпаючы шоргат...
Наводдалі – за табой – бунтуе астрожнае мора:
спрачаецца хваля з хваляй,
і вецер трасе прастору,
і неадступны бераг уздымаецца насупор...
Зацяты міжбой стыхіяў – крыкі, і ўсплёскі,
і стогны...
А ты, нерухомы і гонкі, ужо і часу не маеш:
усё ў табе ўтаймавалася
і ад цябе не розніцца,
і васільковая зорка цвіце над тваёй галавой.
Гайдаецца поруч зыбка... гайдаецца поруч песня...
І сам ты не ведаеш, хто ты,
бо ўсё ўзгадавана табою:
і немаўля, і маці, і ціхая калыханка...
Аб што абапрэцца думка,
калі для зямлі нават крок твой зацяжкі?!
Дагэтуль недагаворанае ніколі недагаворыце,
але і зямля і думка прыміраецца неўзабаве...
А недзе ў гнеўнай стыхіі
высільваецца Страцім-лебедзь

сярод адрынутых птушак,
якія хацелі жыць...

IV

Куды вы?!
Страчваеце незаўважна, што мелі,
а думалі, што не маеце:
думалі, як ні будзе, а будзе лепш...
І на абшарах вялікай чужыны сеялі
дзеля спробы сваё насенне,
прыстаўшы, палілі вогнішчы
і песень амаль не спявалі: былі недарэчы песні...
А на зямлі і небе змагаўся захад з усходам,
не пакідаючы вам прытулку,
толькі – смугу і немач.
Куды вы?..
Усюды прымалася зерне,
але нідзе васілёк не прыняўся...
Нідзе васілёк не прыняўся!..
А людзі ішлі далей, усё пытаючы долю,
усё гукаючы шчасце,
і каб вярнуцца – не ўспаміналі...
Тады спыніўся музыка.

V

Нядоўга слухаць табе ўзрушаны шоргат,
нядоўга ўзірацца ўслед небасхілу,
які не захоўвае іншых прыкметаў,
апроч вечнай прыкметы таго,
хто аднойчы стаў небасхілам...
Ужо засыпае цябе чужая зямля, і твой абсяг
не болей магілы, угатаванай дачасна...
Гартаюцца – не адгартаюцца старонкі
самотнай кнігі – кнігі твайго жыцця:
і ты не самотны,

і не самотныя птушкі ляцяць
праз цябе ў Беларусь...
Ці здолеюць людзі жыць без музыкі?..
І што яшчэ не запомняць?..
І калі зразумеюць: цябе не стала?..
Ты будзеш вечна шукаць свой народ
і будзеш знаходзіць...
Цяжар твой з табой, і твая магіла
пасярэдзіне свету –
каб бачылі, як вяртацца,
каб ведалі, як заблудзіліся...
На што прамяняюць людзі апошнія калівы жыта
і васілька і неразменную жменю зямлі з-за пазухі?
На якіх аблогах, упаўшы, не ўздымецца песня?..
Але апошняе не аддаецца,
апошняе ўжо не належыць людзям...
Сыплецца шоргат –
сыплюцца жмені зямлі, якая – ты верыў –
лечыць нават ад смерці,
на твае збалелыя грудзі: ты чуў гэты шоргат?..–
і высяваюцца дбайна рукамі асмяглымі
апошнія калівы васілька,
і апошнія калівы жыта глыбей берагуцца –
для Беларусі,
для вечнай тваёй Беларусі,
Максім Багдановіч.

# ПАЭМА АДПУШЧЭННЯ

Да гарызонта даляцела птушка...
Сонца
хілілася на захад –
і трава,
і цёмная вада, і дрэвы
праменне гіпнатычнае ўбіралі
і, бы ў прадвесці смерчу, не маглі
паварушыцца...
ўздрыгнуць...
засланіцца...
Цяжарныя трывогай, у гурты
збіраліся аблокі...
Чорны камень,
шпурнуты невядомаю рукой,–
ляцела птушка
няўхільна і знясілена,
і доўгі быў крык яе...
З гнязда і чарады
у сонца, што, як выразаны мозг,
праменіла жудлівую барвовасць,
ляцела птушка,
быццам ёй вядомы
былі і мэта іншая, і час...

Я зноў прыйшоў, а ты зноў даравала...
Не апускалі позіркаў – глядзелі

без думкі, невідушча і зацята:
як поле гравітацыі, з'яднала
нас немая задума,
                    быццам птушку,
якая дасягае гарызонта,
мы бачылі і быццам разумелі,
куды, навошта, хто яе паслаў...
І ні пра што нічога не пыталі,
не вінавацілі,
бяды не ўспаміналі,
пілі віно і слухалі бязважка,
як пульсавалі цёплыя хвіліны,
усё было надзвычай зразумела:
не ведаў я, навошта зноў прыйшоў,
а ты не ведала, навошта даравала.

Не, ты не тая, пра якую марыў,
зусім не тая –
быццам колцы ў дрэве,
адклаліся ў табе усе сустрэчы –
не, не са мной...
адклалася каханне –
не да мяне,
                    да іншых, што былі...
Каб звесці колцы – секчы трэба дрэва
і выпякаць калёным і стальным
наросты часу –
марна, што жывое...
Ты не пярэчыла,
ты літасці прасіла,
згаджалася на суд і на пакуты,
гатовая пайсці са мною ў бездань
і на той свет,
                    каб толькі удваіх...
Я прагнуў дасканаласці тваёй,
адданасці –
не мне: ідэі... тайне... –
якую у тваіх вачах чытаў,

а разам з тым чытаў недасканаласць.
Не, ты не тая...
Ты жыла падманам:
хвіліна шчасця, а пасля не жыць...
Пакутны лёс:
                    даваць табе няшчасце...
Кідаў цябе у сум свой і адчай,
што немагчыма выправіць нічога –
вярнуць цябе далёка, і вярнуцца
самому ў гэты час,
                              і там сустрэцца,
хадзі са мной...– сказаць скупыя словы
і святкаваць сустрэчу нашу вечна...
А сёння я не ведаю тых слоў,
акамянелі сёння тыя словы,
ляглі ў душу і мару утапілі,
і абступілі шчыльна навакол –
няма з табой мне радасці і волі...
І ўжо няма таксама без цябе.

Як агнявіца чорная–каханне:
зняможа цела, перапаліць кроў,
аслепіць розум, прывідаў населіць
у сны,
              а сны аберне ў рэчаіснасць...
І памяці пазбавіць, і замкне
у сферы без канца і без пачатку.
Як маятнік, адхілены убок,
спяшаецца вярнуцца ў адхіленне –
зближаемся, каб раптам аддаліцца,
і аддаляемся, каб зблізіцца ізноў.
Якой заканамернасці і рытму,
іх выклікаўшы, падпарадкаваны?
Чаму, бяссільныя, крычым і наракаем
і разарваць не можам кайданы,
якія нас звялі і раз'ядналі?..
Прасіў бы ў неба, каб дало нам волю
ад нас саміх

або наадварот:
дало няволю, абвяло астрогам
і нас саміх вярнула нам самім,
ды, ведаю, дарэмныя прасіны –
ні тое, ні другое не ратуе...
Апальвае агонь...
Нібы вядзьмарку,
на вогнішча, якое запаліла,
я сёння аддаю сваё каханне.

А цемра надыходзіла –
маўкліва
ўзіраліся ўдалеч і не зналі,
як быць нам, што рабіць нам...
Да акна
паволі падступала з цемры мора
і ахінала нас,
і з вышыні
ўзіраліся нахіленыя зоркі
і завалодвалі жыццём,
і сувязь
патайная завязвалася з імі...–
не мы, а ў нас...
А мы, нібыта сведкі,
прысутнічалі сцішана пры ёй.

У час такі папроку не узнікне,
і безразважны рух не адштурхне
таго, хто верыць у цябе і любіць
і ўсё даруе –
толькі б ты любіў.
...Але стаяць нябачна паміж намі
людскія вочы, памяць пра цябе
і мара непражытая пра волю.

Якою прываротнаю травою
ты апаіла,
а сама далёка

паехала – слядоў не дашукацца?..
Якімі ланцугамі прыкруціла –
О           помста! –
                        да ганебнага слупа?..
Як бумеранг, мой гнеў, мае абразы
вяртаюцца і цэляцца ў мяне.
Ў пустым пакоі б'ецца тваё сэрца,
тваё цяпло утрымлівае коўдра,
І кнігі моўчкі гутараць з табой...
Усюды асабовасці тваёй
нясцерпныя прыкметы засталіся.
Як допыт, як галера, кожны міг
прыпамінаць цябе, і неадчэпна
табою жыць, і думаць пра цябе,
і размаўляць з адсутнай –
                                        і ў адказ
якія хочаш мець альтэрнатывы,
якія хочаш карыстаць здагадкі
і ў здрадзе якой хочаш вінаваціць...

Шукаючы адступную цябе,
я слаў лісты: праклён і прывітанне...
Праклён і прывітанне – як змагла
ты адвярнуцца... збегчы... адрачыся...
ад слоў сваіх, свайго перараджэння,
ад ласкі і нянавісці маёй?!.
Сваёй крывёй цябе я ўзгадаваў,
наноў з табой прайшоў тваю дарогу,
і здані, што туліліся на ёй,
параспаўзаліся, схаваліся...
                                        Няхай
адну дарогу не праходзяць двойчы,
як двойчы не жывуць адно жыццё,
а ты прайшла...
Прайшла – і бы памерла
для радасці,
                        але не для мяне...
Твой голас набліжаецца здалёк –

з-за лесу, з-за гары, з-за лугавіны,
з радзімы светлавокага маленства,
і тужыць па каханні і граху,
якія недаступны чалавеку...
О лепей ты памерла б для мяне,
чым гатаваць у сэрцы сваім пекла,
І дэманаў склікаць на грозны шабас,
і аддзіраць душу тваю напрэч:
мая і не мая – нібы пухліна...
О ненавідная,
прыйдзі і адпусці!..

Не вартаўнік, а Каін для цябе,
чакаючы, не сплю – ўсё вынаходжу
у рудніках задухлівае цемры
крышталі страшных лекаў,
ад якіх
нам стане справядліва і прасторна.
Нястомным сэрцам – ранаю нястомнай
узважваю набытак нелюбові
І цешуся з хвіліны мімалётнай,
што збудзецца прызначаная кара:
пазбавіць нас ад нас...
Мы абышлі
адзін другога – заступілі выйсце;
не вартаўнік, а Каін, развяжу
усе вузлы,
закрэслю непахісна
з-за прошласці адступнае твае
і з-за мае цяперашнасці чорнай
і чорнай мроі
будучыню нашу,

(...І праз сябе памрэш...
О гора,
о туга, о людзі, о жыццё,
вялікае і поўнае да краю,– не хачу,
каб выплюснулі кропляю праз край,

жывой маленькай кропляю, о не,..
І голасу майго ніхто не чуе,
і што я ёсць – не ведаюць усе,
О пачакайце, дайце нарадзіцца
І растлумачыць: я не вінаваты,
тут нешта памылілася,
не так
падумалася думка, і жаданне,
напэўна, пажадалася не так...
О перадумайце –
так проста перадумаць,
пераждадайце –
плачу з небыцця...
Не адпускайце – я да вас падобны:
вы сніце шчасце, я яшчэ не сню...
Стэрыльныя нажы абрэжуць сувязь:
ад матчынага лона адарвалі
І не пусцілі... не пусцілі жыць.
Памру не праз сябе...
Праз развітанне...)
Як начарую, упушчу ў пакой
скажоную сіметрыю галінаў,
мігценне ліхтароў і галасы,
якія ўмеюць праракаць і зводзіць...
І крыламі тугімі зашумяць
начныя страхі – кажаны начныя.
Як альпініст з дрыготкай вышыні –
хіснуўшыся, абрынецца свядомасць
уніз... уніз...
у бездань... у нябыт...
і не дасягне дна...
Імклівы момант
расцягнецца ў бясконцасць...
Страшны сон –
калі не спіць пранізлівасць і роспач.
Нашто, нашто я існасць разнімаў,
нашто, нашто няіснае трывожыў,
што адбылося – тузаў і змяняў?!.

Змяніўся сам...
Любоў і раздарожжа!..

Ты адпускала – апусціла рукі:
знясіленая... чыстая...
мая...
Хадзі са мной...– мне б вымавіць нарэшце,
сказаць нарэшце, што дасюль не мог,
ды словы спаражніліся:
памерла...
загінула каханне – сутнасць слоў...
Хадзі са мной...– ты пойдзеш не са мною,
о, не са мною... вось і прычакаў
я хвілі, калі больш ужо нішто
нас побач не трымае і не мучыць...
Шчаслівая, праклятая хвіліна –
хай больш не паўтараецца яна.
Ты адпускала –
дагарэла сонца...

Бывай і будзь шчасліваю, жыві
сваім жыццём,
хай ранак непадманна
пярэйдзе ў дзень –
хай поўны будзе дзень!..
Апошні раз прашу аб дараванні,
апошні раз хілюся на калені,
апошні раз – малiся!..–
пакідаю...
Суддзя і кат, судзіў і катаваў,
надзелены бязлітаснаю ўладай...
Апошні раз – апошнія абое –
усё прыпомнім, што ні адбылося:
я стаў тваім і стала ты маёю...
Бывай і будзь шчасліваю...
Жыві...
Да гарызонта даляцела птушка.

# ПАЭМА СВЯТЛА

I

Святло вынікае з цемры
і з ёй памірае...
Кусціцца
плодная ніва і бледная ніва,
але падзелена доля.
Аточваюць бэз і чаромха
напаўразбураны замак –
час будаваць і вечнасць
раструшчваць пабудаванае.
Ў сутонлівыя прахоны
ўлятаюць лёгкія ластаўкі,
і шэршні гудуць ля споду –
нібы вібруе праменне...

Як нараджаецца водгук?..
Мо спеўныя ручаі,
уліўшыся ў возера, звоняць,
мо шэпчуць у галасы
раскрышаныя цагліны
ці не пускаюць з палону
скаргу зямныя лёхі...
Страла працінае вобраз
і застывае ў вобразе:
ці ўдалае паляванне?..–
але не чуваць паляўнічых.
Людзі прыходзяць міжволі

і адыходзяць міжволі,
і рэчы на відавоку
мяняюцца, быццам сутнасць
знутры падымаецца ўпарта
і не падымецца...
...Маці
была тады маладою.
На камяні мармуровым
імя дагарае: Марыля...–
і толькі водгук заўсёдны.

Час адшукаць радзіму:
радзіма знаходзіцца ў часе,
а час у сабе, і кожны
момант наступны адлучны –
глыбей адхіляюцца вежы,
мы адхіляемся прэчкі,
у травы і небакрай
і ў неруш маладзіковы...
Ускінецца ў неба спіч,
творачы утрапёна
вогненныя замовы
дзеля любові, якая,
як ён, працінае час...
Расклаўшы, вартуем вогнішча
у сімбіёзе трохісным,
абведзеныя ад цемры
магічным кругам любові...
Страчаная радзіма
ўзнаўляецца ў хісткім полымі,
ўзнаўляецца у любові.

II

Зямлю працягвае кладка,
а нас нашы крокі...
Ніколі
мы не маглі прыпыніцца:

перамагалі і думалі,
што дзень пераможцаў вялікі,–
ды час напаўняўся сабою,
а мы былі на падзеле
паміж мінулым і будучыняй,
належачы ім непадзельна: правыя, левыя...
У тумане пераменаў
няўцешна спявалі сірэны –
правыя-левыя-вечныя
вабы: або... або...

Ні днее ні вечарэе,
ці час перагнуты на столкі: разам
і днее і вечарэе,
гасіцца і запальваецца,
бярэцца і аддаецца
і ўжо стаіць у чарзе за табою...
Да цэнтра кругазвароту
адбегшы, збягаюцца хвалі:
куды б ні спяшаліся – роўна
спяшаемся працілегла:
рэчышча ў рэчышчы,
захад ва ўсходзе,
суток у вытоку...
Думка
становіцца саманнай,
становіцца рух нерухомым,
хто пазнае – пазнаным...
Не вымаўляліся словы –
а выяўлялася слова,
большае, чым мы самі,
нязменна-адзінае: праўда...
З бяссоннымі ліхтарамі
перагарнулі мінулае –
ўсе капішчы і капліцы:
засталі сляды чакання...
Выйшлі на бальшакі
да Геркулесавых скалаў,–

але наставала будучыня –
і будучыня!..– без яе.
Ці ззяць ліхтары не ўмеюць,
а вочы не ўмеюць бачыць,
а праўда...–
адкуль ёй быць,
калі пры сабе не маем?!.

Пазнаеце праўду...–
з асфальтаў,
апаленых сонцам шалёным,
устаюць чалавечыя цені
і запаўняюць прастору, якую
не можа запоўніць і вечнасць,
і раскалыхваюць звон:
ёсць толькі
імгненнае сёння, і сёння
на ўсё адказаць неабходна;
бы ў похву, светабудова
ўбіраецца ў звон жалобны,
у звон чалавечы...–
і праўда
зробіць вас вольнымі.

III

Што адбываецца, быццам
нічога не адбываецца?..
Якія клішэ адліты,
і кінастужкі зазняты,
і ўгатаваць! прысуды?!.
Адсунуты алтары –
і болей не ўспамінайце
каля каго мы не сёння –
закатаваных, знявечаных,
бясследных і беспрыкметных...
Аддалены крык і страты:
з поля жыцця і ўвагі

выносяцца лепшыя – першыя.
У натуральных падзеях
і смерць натуральная:
пальцы
паказвалі літасна ўгору,
і ўніз, і яшчэ наперад,
дзе мусяць збывацца задумы.
Ці правільна непазбежнае,
ці непазбежна наўмыснае
і хто вінаваты?..
Дарога
ад нараджэння да смерці –
правільная дарога...
Калі якія пячаткі
пазначылі лёс наш?..
Голас
становіцца безгалосы,
становіцца смутак дзейсны.

Як дыхаць і ўсведамляць,
нам нестае вышэйшасці:
усведамляем адны,
а спраўджваемся супольна
і адбываемся большасцю...
Небам
зямля набракае...
Падзеі,
што адбыліся, маюць
яшчэ ўва мне адбывацца,
яшчэ звінець ланцугамі,
каронаю і паўстаннем,
яшчэ апякаць і сцюжыць...
Вы заўважалі – заўсёды
мы болей чым тут:
пытаюць
у нас гарадскія брамы,
хто мы такія,
дымна

вее ад нашых лядаў,
і ведаюць нашы далоні
вагу сахі і гізаўры,
а коні нашай пагоні
будучыню насцігаюць,
дзе – апраметная цемра
і мечы сліпучых маланак...
Крылатыя рукі памяці
спрабуюць счапіць абрывы,
якія разводзяцца...
                                        Непадзельна
мы ўдзельнікі ўсіх падзей,
сучаснікі часу...

Аднойчы
былі мы, аднойчы будзем
і ёсць таксама аднойчы...
Запісаныя на вадзе,
на воблаках спадарожных,
на вольным дыме, на кветках,
гайдаюцца і жывуць
нашы метапытанні
і нашы метаадказы,
абняўшыя, быццам дужкі,
сабою ўсю рэчаіснасць,
якая заўсёды з намі,
што азначае – аднойчы...

IV

А словы ўсё тыя самыя...
Неразабраныя словы...
блізкія словы... далёкія словы...
вечныя словы...
                        Нязгасна
гарыць, не згараючы, купіна.
Што кволы агонь гасіла –
ўзмацняе вялікі...

Гусцее
на захадзе вечара цемра
і, раствараючы цені,
бачнае растварае...
Што ў неабсяжным знаёмае,
што блізкае ўдалечыні?!
Быццам іголка, вырай
нітуе абшары –
                              учора
быў блізка, сёння далёка:
учора учорашні,
сённяшні сёння –
                              ўсё вырай
і далучэнне:
спорна
аблётваюць і ў сабе,
і ў ховах старога замка
акумулююць шэршні прастору...
Адсюль ці адтуль – аднолькава
ад нас пачынаецца вырай,
ад нас – набліжэнне да блізкага,
ад нас – узыход наш на ўзгор'е,
ад нас і яднанне наша
з тым, што ўзлюбілі,–
з любоўю.
...Падзельнае спалучаецца,
і непадзельнае дзеліцца,
бо аддаліцца–наблізіцца.

# ПАЭМА РЫБІНЫ

## I

Паехаў бацька, куды не сказаў — паехаў: можа, ў Сашыцу, можа, ў Куроўшчыну, а можа, ў Нарутавічы, паехаў адранку бацька — вясковы анучнік, і яшчэ не вярнуўся.

Буду стаяць, расчыніўшы вароты, на апусцелым падворку, і пакуль зусім не сцямнее, буду сачыць праз платы ў два бакі вуліцы: адкуль выедзе воз віхляваты — на возе бацька, а гняды конь стомлена-шпаркі.

Яшчэ я заўважу, ці поўна ў драбах: анучы, пакулле, косці, алюмініевыя чыгуны... Калі поўна — тады і бацька ў гуморы, калі не — не ўгадаю... Уязджаючы ў двор, старахціць нешта гучнае воз... Рассупоню ў момант каня, па спіне пагладжу — ці потны, а ён будзе цёпла мне дыхаць у твар і стаяць нецярпліва.

Пад паветку закіну дугу, і хамут, і лейцы... Бацька будзе гадаць-меркаваць, дзе пасвяцца коні: або за бродам, або ў альшыне, або яшчэ дзе — калі перагналі за сёння. Здыме з воза бязмен і свой падарожны куфэрак — з ніткамі, грабянцамі, з парцянай і суконнай фарбай, губнымі гармонікамі ды хусцінкамі — і панясе ў хату.

А я той парой ухаплю пацёртае пута і ўскінуся на гнядога... Па вуліцы будуць утульна свяціцца вокны, і троху відаць будзе — што там... Шчасліва і неразборліва буду думаць-успамінаць, як на-

паю каня ў рэчцы... як заўтра ў школе спаткаю дзяўчынку – такую, бы веюць таполі... як, вярнуўшыся, зачыню вароты...

II

Смуга вечаровая – у смузе навакольныя вёскі: стрэхі і дрэвы... якія ты прамінуў, прамінаеш або яшчэ прамінеш.
Нечакана аціх дзень – і паверылася нечакана, што ўжо нікуды не дзенешся, будзеш ехаць, як ехалася, падзяляючы дзень з усімі, хто сустракаецца: з небам, з травой прыдарожнай, з канём гнядым.
Пра што пыталіся людзі, пра што гаварылі? – нібы і помніш, а ўсё прыпомніць ніяк не можаш: ва ўсім было падабенства, у розным было адно – і ўжо смугою акрылася.
Увіваліся дзеці, мужчыны сыходзіліся дзеля размовы, зазіралі ў куфэрак з таварам кабеты – і неслі з двароў, што было ім калісьці патрэбна, а цяпер перастала, і ты забіраў: старое, нявартае, папсаванае...
Клікалі дзедам, і не ўяўлялі, што й ты быў інакшы: быў горды ў слове і кроку і любіў гаварыць: потым... ва ўсім разбярэмся потым... І вось разбіраешся, і не горды, і воз калываецца па дарозе. Адзін аргумент дадаецца, другі адымаецца, і ці апошні найбольш праўдзівы?!. Рахмана гняды тупаціць, а перад ім быў сівы: пашкадавалі на бойні – вывелі з-пад абуха, і быў яшчэ адзін сівы– з хворай панылай шыяй, і быў вараны, наравісты, а сёння – апошні твой конь...
Да восені – і развітаемся...– вырашанае варушыш... І развітанне нязвыклае будзе, бо разам з гнядым развітаешся з імі ўсімі, і хто ведае: можа, якраз іхнія косці ты зараз вязеш на возе.
Яшчэ развітаешся з тым, што не сталася: яно і наз-

вы сабе не мае – авохці, не сталася, і як перад полем асеннім, перад сабой паглядзіш адкрыта.

І, можа, нарэшце прызнаешся, у чым нікому не прызнаваўся: ўсяляк выпадала, а выпала ўсё ж не гэтак, нібы спадзяваўся на нешта... на некага: вывезе... і біў нізавошта каня і лютаваў у хаце... Па незнаёмай мясціне цягнецца воз анучніка. Які з цябе быў гаспадар – і над сабою не ўладны: то чорная скруха, то бясклапотнае блазнаванне, то непрабудныя п'яныя тыдні, калі ўсёй хаце балючы і невыносны, то хворы – не адарвешся ад ложка.

Умеў распачаць і не ўмеў давесці: застаўся па пляцы плот неацесляны, у хаце падлога наскора ўсланая, а на падворку падмурак да нейкай будовы, якой так ніхто і не ўбачыць.

І крыўду на маці сваю гадаваў як сабе апраўданне – бязлітаснае апраўданне, што ты такі... А на яе паховінах начамі сядзеў не сплючы, лісты чытаў зберажоныя, а там пра цябе ўсё – пра мужа і бацьку, нібы староннi, сябе перачытваў і, прачытаўшы,– паліў і плакаў...

У маўтгаўзенаўскім крэматорыі згарэў твой нумар: незнаёмы нябожчык памёр за цябе таксама, і яго нумар, нібы язык полымя, нібы пасма дыму, цябе датыкаўся да самага вызвалення, як датыкаліся зараз лісты пра цябе...

Каму б ні прыйшлося, радзіў: і што казаць старшыні калгаса і што не казаць, радзіў, куды падавацца з рублём, а куды са скаргай – нібы пабываў усюды, і толькі сабе не нарадзіў нічога. Калі было шмат – не трымаў, і ні ў чым не ўтрымаўся, усё спахапляўся: нават з анучнікаў адлічалі – судом заступіўся, нават застолле не цешыла – цяжыла...

З чым ні раўняўся – не параўняўся: мяняліся шапкамі, але ўсё роўна сваю знаходзіў, і свае чобаты, і ватоўку, і рукавіцы, якія сам сабе шыў...–

і можа, нyварта было спахапляцца...
Дома цяпер амаль не трывожаць – скарыліся: дроў не хапае... сена не косіцца... гніе бярвенне...
і конь марнуецца стойма...– але сабралася пры табе і з табой вандруе трывога: чаго не хапіла ўсё-такі?
Аднойчы згубіў ты ключы ад крамы – быў крамнікам, хадзілі шукаць іх усёю хатай: па розных баках, па розных закутках, дзе ты быў напярэдадні – і адшукалі... А як растлумачыш сёння, дзе быў і што страціў?
Прыгадваюцца аднавяскоўцы, якія памерлі, як і табе прыгадваецца: нечакана – адзін, калі вывеў калоць вепрука, другі ідучы ў сябрыне, нібы паслізнуўшыся...
А недзе – ужо за смугой – нязбытнае адчуванне: ты спіш у кусце чаромхавым, а на падворак прыйшлі па цябе з абрэзамі... Пытаюцца ў маці, шныраюць, а сонца пахнюткае і густое, і ты ні за якую справу яшчэ не браўся...
«Знайшлі б – зрасходвалі б»,– паабяцалі... Не паслізнуўся тады твой лёс, тады не здзівіўся, а сёння дзівуешся, тады быў упэўнены: так і трэба, а сёння не ўпэўнены, тады больш адказваў, сёння– пытаешся...
Апраўдваўся – звінаваціўся, дамагаўся адменнага ладу – і простага не дамогся: струхлела бярвенне – на дровы парэзалі, неставала сена – кармілі хлебам скаціну.
Абавязкова заворваць поле, абавязкова разворваць, станеш іначыць – і прападзеш: о як табе –
і не жадаўшы таго – іначылася: заўжды прападаў, шанцавала часам.
А прызнавалі – цешыўся... Доўга не мог нахваліцца і цяпер не дахвалішся, якую ўдалую вывеў печку: хадзіце, глядзіце, а нават не ведаў, што ўмею...
І ад таго што рупіла, як назнарок адхіляўся ў немагчымы клопат.

І прыпавесць нам расказваў аб рыбаках і рыбінах: усе лавілі звычайных і толькі адзін незвычайную, усе вярталіся з рыбаю, а ён з нічым... Кпілі з яго, пацвельвалі, а ён разлічыў найлепей: калі ёсць звычайная рыбіна, павінна быць незвычайная, і, значыць, ён яе зловіць...

Так ён лавіў і састарыўся, і знямогся — і тады засмуціўся сэрцам: бо тое, што ловіцца ў вечнасці — як давядзецца ў век... Няхай не дарэмна лавілася — ён дарэмна... ён без нічога... І думаў, што сёння і рыбіна тая не пераважыць яго надзей... А яна прыплыла — мела літасць... Як гутарылі — невядома, але вядома — сказаў ён: узнагародзь... А яна адказала: ...узнагароджаны. І калі ішоў ён дадому, з яго па-ранейшаму кпілі, бо ён быў ранейшы: у той жа ватоўцы, чобатах, шапцы, якія сам сабе шыў... Але галоўнае сталася — сведчанне: што ён недарэмна... што ён найбольш... Ні ў адной ваколіцы не было такіх вагаў і мерак, якія б умелі замераць яго штодзённую рыбу, і ў яго не было дагэтуль... О, наша нямая рыба!..

Як неўзабаве сцямнела... і блажыцца... І ўжо не разгледзіш, куды забрылася... Што скажаш, гняды?.. Ты апускаеш пакорліва лейцы: куды-небудзь мусіць давезці апошні конь, куды — яму больш вядома...

Калосіцца жыта... Абапал дарогі калосіцца жыта, знянацку заспетае — і вы грамадой каля жыта пад аўтаматнымі рулямі, а ты асобна — ў бялізне: па вопратцы і паставе прызналі, што нетутэйшы, і ўсе разумеюць, што ты сапраўды ўжо амаль нетутэйшы...

Скруцілі табе тытуню ў бібульку і неўпрыкмет падкінулі: аб роў абапёршыся — курыш... Магічна пасоўваецца паясок агністы, і ўсёю ўвагай, якую займалі такія розныя рэчы, цяпер яму аддаешся. Перасунецца ён да рэшты, і апынешся ты сам-насам перад нечым няўмольным і патаемным, з чым

не ўмеў абыходзіцца, перад нечым відушчым і ведаючым, ад чаго засланяюцца людзі зямлёю,

і целам, і ўсім жыццём і не адважацца засланіцца. Як затрымаць паясок не згубіўшы?.. Не затрымаеш — курыш: то прагна зацягваешся, то марудзіш... І бяжыш апантана па жыце, а яно тузаецца пад нагамі, і па твары сцёбаюць узбураныя каласы...

Колькі разоў ты хацеў вярнуцца ў той чаромхавы сонечны куст, у той роў, дзе курыў і не мог накурыцца, у тое жыта, у той чэрвень... і жнівень...

і люты... — а ўсё не ўдавалася, быццам тая відушчасць узнікла між вамі і знікаць не хацела... Заносіла снегам хату... чырвонае сонца вісела цяжка і поўна... па шкле квітнелі марозныя ўзоры — і што было абавязковае, а што не? Ты грэў у печцы цагліны, загортваў у рыззё і клаў нам у ногі нанач. І ўсё, што рабіў, было самым-самым, а што не рабіў, не было ніякім.

Курыў свае папяросы і памагаў нам ва ўроках: у сястры арыфметыка і ў мяне арыфметыка, але ў мяне задача аб рыбаках і рыбінах, і загадзя — адказ... Рашалася — не рашылася, і тады мы рашылі па-свойму, насупраць адказу — і незвычайная рыбіна была прыплыла да акна.

## III

На самым світанні — і не пачулі — вярнуўся бацька, сам гнядога распрог, сам занёс пад паветку збрую, сам знайшоў, дзе пасвяцца коні, і яшчэ раз вярнуўся, і зачыніў вароты.

# ПАПЯРЭДЖАННЕ

I

Час абарваны...
Сню нябыт...
Абрабаваныя пагляды:
нібы сплывае ў плыні плыт —
срабрыста свеціцца спагада.
І ззяе захад залаты,
і сны расплаўленыя
паляць...
Расперазаныя плыты —
сплывае спадчына і памяць.
І праступае праз зеніт
крыж зорны ў зорным карагодзе...
А мне і долі —
сню нябыт —
крыж Богшы Лазара ўзыходзе.
Рукою творцы і суддзі
да судных дзён,
каб, быццам раны,
смылелі словы —
не ўкрадзі
і не аддай! — занатавана.
І славу — прэч,
і ўцеху — прэч...
У змрочнай пільнасці астралу
цябе дзялілі зман і меч,
а папярэджанне вяртала.

У камянях хаваўся след:
і пераймалі футаралы,
і зацінаўся бранзалет...
А папярэджанне вяртала.
Няўжо не вернешся цяпер?
Ці ўжо няма куды вярнуцца?!
І толькі цягнецца няўцерп
час абарваны...–
звёны рвуцца.
Былы і новы парадні,
злучы ў адзіную сцяжыну!
Якая скруха дзень пры дні
цябе праводзіць на чужыну.
Якая бездань – не змагчы,
не памагчы,
не ўзяць з палону...
Не лес выносны – а карчы...
Што прызначалася для плёну?
Што лёс паклаў?
А з мітульгі –
у перападах не прыстала –
прадвесце славы і тугі
глядзіць маўклівая Прадслава.
І той жа зор, і той жа твар...
Я сню нябыт.
Якое ранне
адзначыў зорны каляндар?!
Гняце няпамяці цяжар.
Праменна свеціцца вяртанне.

II

Чую і мрою...–
ні моў... ні сустрэч...
Над меднай гарою
медны меч.
Бачу і помню...
Меддзю – гады...

Медныя промні
адсюль – туды.
Адметная мера
шлях адаб'е...
Знаю наперад –
як ты... як табе...
Маткай... сястрою...
дачкой...– не аспрэч!..
Над срэбнай гарою
срэбны меч.
Не ў смутак – поле,
лес – не ў бяду...
У долю-нядолю
тваю ўвайду.
Расстайна... дарожна...
услед... наўздагон...
звоніць трывожна
срэбны звон.
Як рэжа разора –
далёка... здалёк...
праз мора... праз горы...
знадзеяны крок.
Дрэва аднята –
прыняты прышчэп...
Страта як свята,
ды скрушны шэпт.
Чорныя строі...
Прамень круты...
Над блізкай гарою
меч залаты.
На покліч уладны,
углядная, кроч...
Сурочны... спагадны...
дзень з ноччу наўзбоч.
І золата – подам!..
І срэбра як медзь...
Прыходам... усходам...–
глядзецца... глядзець...

Дакуль шляху весці –
з дабром?..
для дабра?..
Якая нарэшце
супыніць гара?
З дому – асобна,
сабой, без падмоў...
Так непадобна
адтуль дамоў...–
Па рэках... па гонях...
па прыстанях плеч...
Над голым прадоннем
вогненны меч.

III

Прадонню – скарбы і двары,
валадары зямлі – прадонню...
Не каршуны – календары
зляцелі з Ноевай далоні.
Якая страшная віна
нас адшукала?!.–
                                    енчыць страта...
Усім абвешчана вайна...
А новы час не распачаты.
Не ўсчата новае жыццё:
яшчэ ў падплыве... у падкопе...
Нібы дрыготкае трысцё,
мы дапатопныя...
                                    ў патопе...
Баліць аднятая зямля,
крычаць адцятыя пачаткі:
усё – вадзе...
                                    вада ўзяла...
Мы ўжо няіснага нашчадкі...
Ператварыць...
                                    у тры вядры...–
змыць галасы... напластаванні...

Не галубы – календары
бяссонна сведчылі світанне.
Хай змыты грэх –
не змыты глей,
каб зноў дрыготкім агарнуцца...
...Не дачакацца – наймілей,
найкрасамоўней – не вярнуцца.
Усім – прыйсці,
усім – знайсці
і горны кут, і покут ніцы...
Шасці – начнець і днець – шасці,
а сёмай пёрыне – свяціцца.
А новым, нам, якім трысцём
і ў чым вязнець –
у новым страсе?!.
Жыццё заменена жыццём,
навошта памяць засталася?!.–
Як папярэджанне пары,
гвалтоўна ўтопленай, няіснай...
Ляцяць адтуль календары –
скідаюць пёрыны наўмысна.
Шэсць і адно...
Што ні вазьмі –
шэсць і адно...
Працяг трагічны...
...Найкрасамоўней: у сямі...
А наймілей: асіметрычна...

IV

Не выдай, не скажы –
на спад...
на згон...
на збой...
Кругі – а не крыжы
заходзяць над табой.
Імшэюць камяні.
Дзе покут, а дзе кут?!.

Яшчэ не ўспамяні,
яшчэ будзь там – не тут.
Нябёсы – не скала –
тваю ўзвышаюць столь...
Што колісь узяла –
не выдай...
                    Не дазволь
нікому ад маны...
ад чыну...
ад абы...
Кругамі – каршуны,
крыжамі – галубы...
Для дум... для душ...–
                                        не для
карысці і акрас...
Каб зноў хаваць – зямля,
а ўваскрашаць – абраз.

Стаі – не абвясці...
Прымроілася мне:
сустрэнемся ў шасці,
а ў сёмым разе – не.
Апошняе...
Замёр –
квет-папараць – твой квет,
твой шэпт, твой сон, твой зор...
Апошні запавет
не страць, уберажы
пад векам – для вякоў...
Кругі...
Вякі...
Крыжы...
І тайна – сем замкоў.

# ПАЭМА НЕЗАВЕРШАНАГА СКАЗА

І

Пераблытаны склон,
пераблытаны час,
пераблытаны лад...
Лістапад...
Зарапад...
Земляпад...
Ды дарога — з-пад нас...
Незавершаны сказ...
Сказ завершыць дарога.
Пераблытаны
рухі, крокі, пагляды — нібыта
я валодаю ладам, і часам, і склонам:
праспрагаць... праскланяць...
Зноў варожыць кавалачак крэйды,
і няроўныя літары — квінтэсенцыяй існасці.
Неіснуючы свет праступае праз дошку.
У бязладдзі маёй крэмзаніны —
лад, асоба і час...
Незавершаны сказ...
Я ішоў па зямлі...
Я іду па зямлі...
Я прайду па зямлі...
Карагодзяць вякі.
Неспасціглыя словы брыдуць з-пад рукі:
я пасля іх спасцігну.
Я валодаю часам, і ладам, і склонам...

Віртуозныя штукі і з часам,
і ладам, і склонам...
Гарызонтам –
школьныя шыбы,
як ілюзія пастаянства:
свой, маленькі, завершаны свет –
шыбы, сцены і дошка
і мы сярод іх,
жыхары, і палонныя,
і яшчэ адкрывальнікі...
А на дошцы – выразныя літары,
і ўсе сэнсы і ўсе бяссэнсіцы –
быццам лялькі адна ў адной,
і замешана гліна,
каб вылепіць творцу...
Узамен філалогіі і вучнёўства,
узамен ілюзіі і спагады,
да якіх ужо не вярнуся,
і за тое, што не вярнуся,
мне адкрыла большае страта:
гарызонт, да якога не дойдзеш,
і бітву,
і смерць,
і свядомасць...

II

Ліхаманкавыя спецкасцюмы,
адваротная эвалюцыя,
і няўмольныя хвілі да тэрміну –
баявая гатоўнасць.
Мы павінны...
Каб выжыць – павінны...
Угрызаемся ў дол,
апраметная зеўрыць, як фініш.
Не прымае зямля нас:
яшчэ не пара...
Ды каб выжыць –

спяшаемся, грукаем
у панурыя лёхі,
у ноч...
Праз імгненне
абрушыцца... рыне...
на чужыя палеткі і рэкі
вынішчальная веліч –
наш розум і шал...
Хай загіне жыццё
разам з ладам, асобай і часам,
хай загіне...–і
каб выжыць...
У надзейны прыпын...
Немагчыма...
Каб выжыць...
Ліст не дойдзе да адрасата,
праплыве, быццам сон асенні,
у маім невідушчым зроку,
ў чатырох вымярэннях будзе
калыхацца ліст непазнаны,
я ў інакшым,
нам не спаткацца...
Восень.
І дождж атрутны..,
А ты суцяшала, мама,
што лепшае дзень наступны,
ты выпраўляла ў школу,
казала: расці...
Сховы...
Дол у лісці...
і пад'ёму няма,
і адбою няма...
Мы гуляем...
жывём...
у жыццё...
у гульню...
Яма... восень... і свет без агню...
і на старце ракеты –

стаіўся напад...
Паглыбляюся ў час,
у асобу,
у лад...
Запацелі процівагазы –
свет адключаны,
свет – не мы...
Свет варожы нам і нямы.
Спецкасцюмы ствараюць ілюзію ўтулку
і завершанасці,
у якой
гарызонтам – потныя шкельцы.
Захінуліся мы ад восені,
ад суровага ветру,
ад гібелі,
быццам кукалкі,–
у сувой,
у гумовы лісток ратунку.
Ідэя ідэі...
Свядомасць свядомасці...
Думкі пра вечнасць,
якая нібыта на нешта падобна,
магчыма, на стан мой...
...Я – свядомасць,
я – цела,
я – свет,
у якім – гарызонтам шкельцы,–
гэта я,
ні аб'ект, ні суб'ект, проста я:
бог, вар'ят і пачвара.
І калі нас засыпле –
ўсё роўна нічога не зменіцца:
той жа свет,
тое ж цела
і тая ж свядомасць,
супакоеная на небыцці...
Крутая хваля –
прыйшлі і зніклі:

самаапора,
самасвядомасць,
самазагубства...
Агонь расхростаны на запаяць! —-
сябе знішчаем сваім гарэннем,
і след наш чорны і выгінасты...
Бадзяжны вецер і нараканне:
з чым ні сустрэнемся — расстаёмся,
і непазбежна расстанне наша,
і непазбежна хада...
і восень...

III

Захлынае бяссэнсіца:
рэчы ўзарваны,
размываецца слых,
абрываецца зрок...
На экранах — палосы,
палосы — у лёсе...
За палосамі — выбіцца змрок.
У дакладным, здавалася б, рытме гармоній
перабоі грымяць,
катаклізмы...
Выслухоўваем тайныя зрухі:
мо гармонія, як арганізм,
падуладна хваробам
і смерці?..
Бы залоўлены самалёт,
пераблытана
уступіла свядомасць —
да сэнсу —
у бязлітасны...
у сляпы...
у пагібельны гон...
І ніхто не вярнуўся назад...
Віртуозныя штукі...
Распад...

Што тварэнне,
што творцы,
што тло?..
Патанула святло,
патанула ў мінулым,
патанула мінулае.
Нам патрэбна кудысьці ісці –
мы заўсёды ішлі,
ўсё далей і далей,
як да мэты...
Як патрапіць у будучыню?
Можа, мы абмінулі будучыню
і зайшлі... ідзём...
не туды...
Паўставалі на тэлеэкранах
і на тысячах фотаздымкаў
папярэджаннем гарады,
разарваныя, як начынне.
Цэнтры думкі і радазнаўства
планавалі забойства думкі
і наогул забойства роду.
Сітуацыя разбурэння...
Усё роўна некуды дойдзем...
Як пакутна ісці па сапраўднасці,..
Гэта школьныя шыбы звіняць пад нагам;,
гэта школьная дошка трэцца аб рукі,
гэта кнігі,
якія вучылі жыццю,
шамацяць...
Што цяпер?
Што пасля?
Хто адкажа, што сёння?..
Інфантыльны экстаз прароцтва
не да твару,
не да абставін...
І ці маецца, зрэшты, твар,
ці абставіны маюцца,
у якіх ён патрэбен,

і ці маецца тая ж відушчасць,
калі ў ёй не... і не...
радавога НН,
з аддзялення... разліку – Н... Н...
з батальёна і часці – Н... Н...
з рэчаіснасці Н?..
І ці маецца рэчаіснасць?
Як груган змардаваны,
цяжка
пазіраю –
абрыў... абрыў...
А ў мінулым –
жыццё і рэальнасць,
і свядомасць мая з мінулага,
ад якога –
адны аскабалкі...
...Помніш:
дошка на школьнай сцяне...
Помніш:
ззяла сонца ў акне...
Незваротнае і непазбежнае,
загарыцца яно ізноў,
і ўсе ўбачаць:
у сэнсе – сэнс...
...Запаліўся прамень,
для знішчэння –
прамень...
Але з ім пачынаецца будучыня,
але крок наш вядзе наперад.
За імгненне перад маўчаннем
я прамоўлю
звычайную праўду,
чалавечую праўду:
скончыцца ноч...

## IV

...Час,
асоба,
і лад,
і аснежаны лістапад,
і вяртанне да дрэў сівых,
да турботаў сваіх жыццёвых,
і па снезе штрыхі, як словы
пераблытаныя,
што казаў,
што чапляліся,
што плылі
і ляглі, быццам снег гасцёвы...
Неўпрыкмет узнікнёнае —
поле белае... белы свет,
на якія глядзець нанова,
праз якія праклaсці след...
і азначаны далягляд —
неасвоенаю высновай
пра асобу,
пра час,
пра лад.

# ПАЭМА КАЛОДЗЕЖА

Д з я д а л

Ікар, спыніся!..
Беднае дзіця,
ляціш, уладай крыл апанаваны,
сугучны крылам – быццам цеціве
сугучная страла...
Ікар, спыніся!..
Як свет стаіць, ніхто не перайшоў
мяжу бязмежжа і бязмер'я меру,
якія адначасна тут і скрозь
і ўперадзе на ўзмах крыла заўсёды.
Ты згубішся ў нябеснай вышыні,
зняможашся ў бязмэтным намаганні –
і ўсё адно не выбераш палёт,
і ўсё адно не вычарпаеш космас...
Цяпер спыніся...
Неба не для нас...
Пусты міраж бясплоднае пустыні,
вышэй за нас узносіць нас яно,
не памыліся...– ў гэтым небяспека.
Ці чуеш ты мяне?.. ці пазнаеш?..
Не пазнае... не чуе...– ўвесь у крылах...
Куды яны нясуць яго?!. Нашто?!.
Далі багі мне ўменне дарагое
з драўніны... гліны... каменя ствараць
усё, што ні задумаю,
уменне

ўсялякія прылады вынаходзіць:
і вынайшаў я крылы – вось яны...
Яны ляцяць і сына майго зносяць...
А я, Дзядал, сачу яго палёт
і не магу палёту перашкодзіць,
нібы я быў – і вось ужо няма,
застаўся толькі сведка непатрэбны.
Што ён надумаў?..
Ён пра ўсё забыў:
ляцець услед – між небам і зямлёю,
між небам і зямлёй...
                                        услед за мной...
Маё дзіця загубяць мае крылы...
О  лепей бы нічога я не ўмеў,
О лепей бы не кратаўся нікуды:
бяссільны царскі гнеў мяне вярнуць,
а мой адчай – няшчаснага Ікара...
Яшчэ хвіліна – і растане воск,
І пер'е расцярушыцца...
                                                  Нясцерпна
мне пазіраць угору, дзе ніхто
не быў яшчэ дагэтуль, проці сонца
і проці сына –
беднае дзіця.

І к а р

Так і не так...
                              Мой аргумент – я сам...
Я жыў дагэтуль па чужых законах,
чужое ўмельства пераймаў бязмэтна,
турботаю чужою марнаваўся
і мудрасць, мне чужую, спазнаваў.
Цяпер я сам твару свой жыццяпіс,
дакладней, я жыву –
                                          раней,     здаецца,
я     толькі     прыстасоўваўся,     згаджаўся
з агульным меркаваннем і тваім,

Дзядал, прыватна-падначаленым...
Калісьці
ты мне самому даў мяне – даруй,
што я і не падзякаваў ні разу:
няма ў нас звычкі дзякаваць бацькам
за тое, што мы ёсць і ёсць такія.
Даўно ўсе пагадзіліся маўчаць
і разумець: бацькі не адпаведны...
Таму даруй мне двойчы, бо цяпер
не за сябе зноў – дзякую за крылы,
за крылы, што дадаў ты да мяне...
Я большага за іх ужо не маю:
яны ўва мне – нясуць мяне, Дзядал...
Не за табой...– наводшыбе.
Я не ўмею
па абавязку жыць і паміраць,
адзіны абавязак мой – па праўдзе...
Я адчуваю: мы не ад сябе...
Забыліся: мы тут, але аднекуль...
Стараюся прыпомніць і амаль
намацваю прадаўняе: з палёту...
Нам тут не выжыць...
Высіцца – адсюль...
Дзівотны сон прымроіўся мне сёння,
у ноч перад палётам –
быццам я
хачу ляцець, а неба не існуе,
адно зямля, каменная зямля,
і я ў яе павінен падымацца.
Не крылы, а лапату мне Дзядал
дае і кажа: вось я што прыдумаў!..–
адменная прылада, ці не так?..
Бяры, капай...–
і я зямлю капаю,
усё глыбей, усё больш неспатольна
і сам знікаю ў глыбіні зямной...
А зверху б'ецца цяжкі крык Дзядала:
навошта ты мінуў крынічны пласт?!.

Калодзеж мае быць куды плытчэйшы...
А мне здавалася: я пушчаны ляцець...
Затое ўжо цяпер не абуджуся
і гэты сон не дамся абарваць:
зямля – уменню, неба – над зямлёю...
Даруй, Дзядал, я долі не змяню –
занадта доўга жыў я нерухома,
занадта палка марыў ні аб чым,
каб зараз на сярэдзіне ўтрымацца...
Мне не хапае крыл ужо...
Чакай...
Яшчэ не ўсё...
Не здрадзіў я палёту...

## П е р ш ы   г р а б а р

Спрачаюцца, даводзяць, наракаюць,
учора большы гэты, сёння той,
а праўда – быццам чоп – усё між імі,
а праўда – у няведанні: пры іх...
Не ведаю якраз і роўна столькі,
як гэта ведаю, а болей не магу
цяпер не ведаць,
некалі, магчыма,
калі, напрыклад, апарожню чоп
або наадварот – калі напоўню,
змагу не ведаць болей...
А пакуль
апаражняць напоўненае мушу
і напаўняць парожняе...
Ні мне,
ні іншым не ўдаецца абысціся,
каб абысці замоўлены заказ...
Я мушу і хачу, хачу і мушу,
але – каму?.. Не ведаю каму...
Каму я п'ю, жыву, каму капаю
зацятую зямлю...
Не мой адказ.

Ва ўсіх жыве няведанне, і ўсім
яно дарадца, ўсім і апраўданне,
яно ўсіх корміць, любіць, сцеражэ
і вучыць да калодзежа даходзіць...
А калі дойдзем – ён нас павядзе,
да самай праўды, праўды неаспрэчнай,
і праўдай станем мы:
бо не сабой
пазначаны –
пазначыць нас калодзеж...
Інакшае – лапаты і пласты –
адвольныя ў сваім судачыненні,
і грабары адвольныя, бы крык,
які не апускаецца з нябёсаў,
або маўчанне, што, наадварот,
ляціць сюды...
Калодзеж – не адвольны...
І час прыходзіць піць з яго ваду,
калі ніхто нікуды не прыходзіць...
Каб свет вяршыўся, мусіць быць найперш
і найпасля калодзеж непарушны,
няведання калодзеж...
Чалавек
заўсёды памыляецца ўсё роўна –
калі мяркуе, і калі крычыць,
і калі ўжо нічога не гаворыць...
Няхай жыве няведанне – яно,
адно яно не ўмее памыляцца.
Нябёсы разлучыліся...
Чым стаць
спяшаецца адлучаная частка?..

Д р у г і   г р а б а р

Хачу вады...
Хачу вадою стаць...
Хачу вады...
Калодзежам глыбокім

спыніцца, дзе спыніліся цяпер
капаць яго...
Хто стане чалавекам?
Нас убіраюць нашыя сляды,
як быццам хтось пасоўваецца ззаду
і нам упадабняецца ўвесь час
і ўсё не аб'яўляецца на вочы...
Што ў чалавеку – сонца?.. што вада?..
Нас хтосьці падмяняе... падмяняе...
і ўжо без нас тады-сяды жыве
і нават разважае аб рамёствах.
Як зберагчыся?..– сціснулі сляды...
А ў сонца і вады папераменна
застаўся эталон – кім трэба стаць:
хачу – вадой...
Хто стане чалавекам?
У нас – хаценне, а што хочам – дзесь,
але вядзе відушчае, бы рэкі,–
незразумела пальцам і вачам,–
даверцеся, нас нашае хаценне...
...І возьме, калыхнуўшыся, вада
і, ўзяўшы, абароніць ад падмены...
Не прыдаецца спадчына–гнятуць
і душаць крылы:
мроілася – ўзносяць...
Адрыньцеся – адрынуты сляды –
ад крыл і сноў –
апошняй перашкоды...
Калодзежам... вадою... будуць піць...
О, як імклівa, як пераканана
ляціць без крыл, хто меў іх кагадзе,–
ім не паспець...
Хто стане чалавекам?!.

# ПАЭМА СЛАНЕЧНІК А

Бо зямлёй завалодаюць,.. І не зашчэплены дзверы, а ў хаце маўкліва і безадказна – ау, ТэкляІ.. Недзе блізка, мо побач, Тэкля і не чуе, што я прыехаў...

Так склалася і зацвердзілася: не прыкмячалася Тэкля сваёй прысутнасцю, адсутнасцю прыкмячалася... Хто стане здзіўляцца, што ў хаты ёсць дзверы, у поля – сланечнік, у неба – сонца?.. Здзівяцца, што няма... З Тэкляй было ўсё ўпору: сонца... сланечнік... дзверы...– а без яе пуста.

Пра каго не язычылі ў вёсцы?.. Хоць якія, а ўвага і перамовы...– а пра Тэклю?.. А што пра Тэклю?.. Пацепнуць плячыма: Тэкля як Тэкля, нічога новага, быццам жывою лічылася, а сапраўды не жыла...

Кожны нешта меў для сябе і бярог для сябе: хто маёмасць, хто грошы, хто ўборы, хто веды...– ашчаджаў, памнажаў, раўнаваў...– толькі Тэкля, штодня і заўсёды, нічога: ашчаджала не для сябе, памнажала не для сябе, раўнавала не для сябе: проста так – для зямлі... для расліны... для статка... для хаты... для нас...

Каб згубіць што, здаецца, і то не мела б: чужая, прыйшла на чужое і пры чужым спынілася... Але каго, ідучы з пашы, пазнавала Красуля, каго аб-

ступалі куры, каму вяпрук падаваў голас і з чыіх рук падымаўся сланечнік?!. Як бы ўсё без яе абязроднела і пагубілася...

Непараўнаная пайка Тэклі ў нашым жыцці супольным: усёй маёмасці стала б замала, каб з ёю разрахавацца... Іначыліся абставіны — і ўжо інакшыя: не Тэкля, а мы ў яе на ўтрыманні... І ўсе нібы разумелі гэта і забываліся адначасна, і на яе забываліся...

Не плацілі ёй ад пачатку: от, заплоціцца неяк адразу... Палічы, Тэкля, колькі вінны табе мы за ўсе гады. А Тэкля не надта лічыць умее: перачакаеце сёння і ўжо забудзецца сёння — бо іх каралеўства нябеснае — і на сябе забывалася Тэкля таксама.

Што адбывалася ў гэтакі самы дзень летась, і пазалетась, і яшчэ раней?.. Промні доўжыліся і не вярталіся, а калі вярталіся — то зямлёй... Ні гадзінніка, ні календароў не існавала для Тэклі... Яе век быў пры ёй: адна доўгая ноч за спіной і адзін доўгі дзень прад вачыма, адна зямля пад нагамі, а сонца над галавой...

Ва ўсіх свае дзялкі, свае заняткі, свая самастойнасць — яна служкавала: зрабі, Тэкля, паглядзі, Тэкля, падай, Тэкля... Рабіла, глядзела і падавала, і меркавання свайго не мела...

Пагаджалася толькі... Скажа хто-небудзь: «Душу выкладай, старайся — а дзеці пабольшаюць і дзякуй не скажуць, можа...» (Нібы ад людзей залежала, ці нараджацца дзецям...) Але і дзяцей не было ў Тэклі... Каму не сталася маці, як чула, жыло неабдымна ў зямлі і свеце і прывячала здалёк і гукала: ау, Тэкля...

«...Бывай, выбачай калі што і бясконцы дзякуй»,— сказалі на развітанне гаспадары-хутаранцы і выехалі ў Амерыку... Калі сваякам ліставалі, прыгадвалі Тэклю нязменна, і роднае сонца, і поле, і

каля хаты сланечнікі... А Васіль, што сказаў ёй: чакай – наказаў ёй чакаць...– сам з вайны не вярнуўся... Але яна чакала...

І, пэўна, не Васіля ўжо, тады – каго?!. Ніхто не знайшоўся, хто б наразуміў, дый не пыталася Тэкля... Сама па сабе – будуць бачыць...– нібыта сама без сябе, дабрыню ў жыцці адкрывала і ёй адкрывалася – мабыць, сонца было ў дабрыні і, мабыць, яно адказвала...

І неставала Тэклі, каб нешта злаўчыць ці скеміць... Лаўчылі астатнія, астатнія кемілі: во як патрэбна, вучыся, Тэкля...– астатнія ўзносіліся і ападалі, спяшаліся і віравалі, а ў Тэклі і розуму не было на гэта – нейкі абсяг раўнюткі, нейкае поле жывое ў ёй занялося і ўсю заняло... Ні пустазелля на ім, ні дзялак – адно высока, і сонечна, і задумна плывуць угару сланечнікі і падымаюць з сабою поле... Не ўмела злосці таіць і нават злавацца не ўмела... Калі пакрыўдзіш жывёліну, птушку або расліну – як яны адзавуцца?!. Але паўставала – пацешаны будуць – за іх... Што за іх паўставала, пярэчыла, і спыняла, і гаварыла за іх: не руш?!. Не руш, о не рушце Тэклі!..

Вялікае і малое – усе называлі яе аднолькава: Тэкля... Яна не абразіцца, не загневаецца, але адкажа... А называлі б інакш – пэўна, і не паверыла б...

Змяняліся ўборы, змяняліся грошы, змяняліся веды, змяняліся...– але дакуль?.. Усё супыняла настойліва самая большая змена і ўсё захоўвала смерць...

Як жывецца, як маецца?.. Што б ні здаралася – гаварыла заўсёды адно: памаленьку...– быццам самаю меншай сябе ў жыцці адчувала, быццам самую меншую справу рабіла... Не казаць жа пра поле: што як непрытомная часам на ім застывала, не казаць жа, што рыкала ноччу карова, не казаць жа, што думаецца без думак, а пра што

казаць – невядома... Як жывецца, як маецца, Тэкля?.. Хто яго ведае, як жывецца...

Дакаралі мяне – правінюся або насваволю – не дакарала Тэкля... Усе ведалі, дзеля чаго дакараюць, а Тэкля не ведала дзеля; усе былі адначасна цяпер і потым і бачылі параўнанне, а Тэкля мяне проста бачыла. Заўсёды дароўвала Тэкля – даруй сягоння.

Што я ў кнігах вычытваю, дагэтуль не вычытаўшы?.. Быццам ведаю, Тэкля, а мовы бракуе, быццам веданнем не сказаць... Памажы, калі можаш, няведаннем: цвітуць як раней... бо цвітуць залаціла... цвітуць пераможна – названыя будуць – сланечнікі... Ды няведанне Тэклі – яна сама... Ніхто і ліста не прыслаў ёй ні разу, хіба што аднойчы – калі пераблытала пошта вёскі... І то было ўцешна... Так доўга чакала лістоў і людской пяшчоты, а людзі чамусьці рашылі, што Тэкля без іх абыдзецца...

Адно – ушчувалі: вучыся... Я спачатку тлуміў абяцадлам – навучалася прозвішчу: Воўк...– а зямля, як магніт, усё забірала, і зноў заставалася Тэкля без абяцадла, без прозвішча, без сябе... Накшталт солі – насычаны будуць – ва ўсім раставаралася, і ўсё ёю было змястоўна...

А ўсім надзіла неяк, каб Тэкля сабралася... ускрышталілася, каб была да абставінаў розных і выпадкаў... О якая падзея: Тэкля ўмее ўжо распісацца, і прыносіць ёй паштальёнка штомесяц сельсавецкую пенсію... І бянтэжылася сама, і здзіўлялася Тэкля сваім магчымасцям: ...а каб жа вучылася...

І ні казак, ні песень або пра сябе расказаць – не ўмела: ...нарадзілася ў цёмным лесе, гадавалася ў цёмным лесе, лес пасеклі, а я засталася цёмнаю... І засталося лясное прозвішча – а прозвішча не змяніла... Ды абяцала Тэкля: мы пойдзем далёка-далёка, за лес далёкі...

Лес адступаў за пазем – падступала пустка... Ад-

ступалі зямля і сонца: брук для хады і лямпачка для святла... І адступала кудысьці Тэкля — ау, Тэкля!.. Кожны раз усё роўна выходзіла Тэкля на голас, усміхалася, і ўздыхала, і ўжо не казала: пойдзем далёка...

Адваротнасцю многая праўда, дабрыня — адваротнасцю... Можна цёмным сабе быць і можна разумным, але добрым — яны атрымаюць,— а добрым ужо не сабе: і нядобрае пахаваецца... Што падслухала Тэкля ў зямлі і сонца і пры сабе паўтарыла няўцямна?...

Не па словах людскіх, не па ўдачах ці хібах — па іх асабіста — ставілася да людзей... Ёсць галоўная кніга, якую чытаем-пішам — мы самі, і галоўнае поле, якое праз век вырабляем — самі... Хто пісьменны тут, а хто цёмны,— навучы, Тэкля...

Слабеюць лёгкія рукі, цяжэюць ходкія ногі — зямля ўсё мацней прыцягвае... Амаль не хварэлася Тэклі, ці, можа, так уяўлялася — быццам і болю свайго, і хваробы не выпадала мець Тэклі...

Рухалася і знікала: гадаванне... паенне... сеянне...— бы ў ненажэрную прорву знікала жывое і дзеля жывога турботы... Зноў сустракаецца Тэкля — нібы ўпершыню — з зямлёю: не завершаная... о не завершаная зямля... Што дасюль не ўзяла — усё роўна возьме, што дасюль не вярнула – усё роўна не верне...

І зямля — у жыцця, і ў жыцця — людзі... Дык адкуль адхіленне ўзялося, бы сваё свайго не пазнала і разышлося бязрадасна?.. У якім адхіленні я, у якім адхіленні Тэкля і астатнія — у якім?.. Чаму пазнаюцца марудна людзі, бо не пазнаўшыся — трацяцца?..

Бо яны атрымаюць... насычаны будуць... названыя будуць... пацешаны будуць і будуць бачыць... бо іх каралеўства нябеснае... бо зямлёй завалода-

юць...– гэтага... нават гэтага... і гэтага не спазнала... Цвітуць сланечнікі...
Замяніцца кніга кнігай, буката – букатай і поле– полем: прытомяць жыццём – падмацуюць жыццём, спытаюцца пра жыццё – і пра жыццё раскажуць...
А дзе ўзяць другую Тэклю?.. Не пакідай нас, Тэкля: у мяне адна мама – мама, другая – Тэкля...
Ау, Тэкля!.. Ціха-ціха насустрач, павольна-павольна, паварочваецца сланечнік.

# АМЕГА

I

Не чакалі...
А спуджаны сон,
сон бяссонны, бязладны, бязлюдны
прыпадаў да зямлі і акон...
Непапраўная доля:
дзень судны.

Набрынялы струменіў прамень,
сіні дзень перакідваўся ў сіньшы...
Завяршаючы час перамен,
заступаў невядомы –
дзень іншы.

Не чакалі...
А ўзнесены смог
засланяў чысціню і свяцільні...
На ваду,
на траву,
на пясок,
працінаючы сховы,–
дзень пільны.

Амплітуды заблудзіцца лоў,
зб'ецца голас сіметрыі парны...
Парушэннем здабытых асноў,
пацвярджэннем прыкметы –
дзень хмарны.

Да наступнага – яблыкапад,
да нябёсаў зямныя барозны
узышлі,
а спасцігнуты лад
аказаўся зыходам:
дзень грозны.

Не чакалі...
А жыць не з рукі,
твой світанак, мой захад раскошны...
Як вада напаўняла раўкі,
напаўняе нябёсы –
апошні.

Не згубі,
                не аддай,
                                не суроч,
што здабыта...
Як прыцемкі – здані...
Да спаткання...
Вяртаюся ў ноч,
каб затое, каб ты – да світання.

Узысці б...
Не напісана як...
Перайсці б...
Не здараецца пешшу...
Але крэсліў абрысы і знак,
узыходзячы кружна,
дзень першы.

Па глыбокім люстэрку акна,
па далёкім, як захад, свячэнні
праслізнуць цені высі і дна,
бліскавічна мільгне вызначэнне.

## II

Колам... кругам...–
вяртанне...
зварот...
Не ўтрымалі –
а водспеў крылаты.
Адштурхнулі –
штодзень і штогод
аб'яўляецца, дражніцца страта.

Непадобна, бы ў помсту, жылі,
і спажытак – да каліва – спробны.
Непадобнае зерне ў раллі
залажылі...
А вынік падобны.

Смелы крок... несвядомы... бліжэй...
Наша блізкасць – згушчаюцца хвілі...
Быццам цяжкую ношу з плячэй,
раўнавагу – ўтрымацца –
згубілі.

Разысціся б...
расстацца...
з дабром...
захаваць бы прылік і манеры...
Але ўцялася лютым таўром
прага вечнасці... любасці... веры.

Ноч і дзень...–
і крыло да крыла...
Дзень і ноч...–
расцінала нягода...
Безнадзейна, да зрыву і тла,
спапялялі былое...–
ўзыходы.

Хто адзначыць нябыту мяжу,
мета... мікра...– пасажы і ніты?
патаемныя шэпты дажджу?
Не прадвосенне –
вечнасць пражыта.

Быццам падае сэрца –
замрэ,
быццам птушкі, з палёту –
і ніцма,
не чакалі – агонь на дварэ:
неспадзеў надышла навальніца.

Не дадуць нам прасторы прытул,
не дадуць нам збавення нябёсы...
Ды ляглі, як шляхі,
праз разгул
пакручастыя лініі лёсу.

Светлы шлях:
быццам дрэву – расці,
быццам зерню, адчуць узрушэнне,
на жывыя вытокі прыйсці...
Не чакалі...–
прыйшло завяршэнне.

III

Пачыналася альфа.
А век –
безназоўны, няўцям і няўбега –
выцінаўся удалеч і ўверх,
нахіляўся ў глыбіні:
амега...

Навяваецца даль і смуга,
ранак ветраны... сонечны... золкі...
Што было, не было?

А туга –
што было – спатыкае асколкі.

Адчужэнне, змяшчэнне і зрух –
вышні свет адхіснула мінтрэга.
Увайшлі ў заварожаны круг:
выбаўленне і мэта –
амега.

І нібы больш не марыць, не жыць,
кожны момант крывавіць на зрэзе,
і зямлю абкруцілі цяжы...
Чым абернецца свет у амезе?

Растапыраны пальцы галін
у малітве
і сцяты ў паўстанні.
Што было – набліжае ўспамін,
набліжае – што будзе – пазнанне.

Скінуў яблык...
Адкінуўся сад...
Засланіўся жалезам і цэглай.
Самалётам... за ёй... наўздагад,
наўздагад караблём... за амегай.

Не пра тое, каб лепш і цэлей
і спадручней...–
цягнуліся вехі...
Неадступна далей... што далей?..
Невыказна далей... да амегі.

Пратрымаць –
адчыні і сустрэнь:
узнавілася, што пахавалі,–
невядомага рытму струмень,
невядомай галактыкі хваля.

Не яго...– нас адкрые Сусвет.
Не яны...– будзем імі сустрэты:

у нячуты павер запавет,
палюбі непазнанаю мэту.

Час каменне збіраць – не плады,
вагам час панаваць – не турботам...
Абышоўшыя круг...–
што тады?
Пераджыўшыя вечнасць...–
што потым?

Тонкі прысмак расстання. І бунт
безнадзейны...
І дрэвы з-пад снегу...
Да спаткання.
Ў вірлівы стаўбун
укруціла, ўвяла нас амега.

Быццам код, запавет ля асноў...
І дарога да звону цвярдзее...
Не хапіла знямогі і слоў –
засталіся імя і надзея.

Не чакалі...
Узнікла сама,
з непазбежнасцю зруху і збегу...
Аз есм альфа...–
было нездарма.
Нездарма надышло:
...і амега.

# ПАЭМА ЖНІВА

Упала зерне —
і не ўзышло,
а што ўзышло — куколле заглушыла,
а што не заглушыла — выбіў град,
астатняе развеяў вецер...

Ці маеце што есці?..
Крумкачы
зляцеліся ад горада і вёскі,
нібы зацьменне, засланілі сонца —
і ў сэрца
учапіўся чорны цень,
і ў мозг пранік картавы і ўтрапёны
халдзейскі гоман: марная патрэба...
Ці маеце што есці?..
І звяры
з лясоў і нораў зграямі прыбеглі,
загойсалі ў дзівотнай пантаміме —
імпэт і хіжасць... хіжасць і пагоня...
Паветра нюхалі — прыспешвалі хаду,
разбойнымі зубамі ляскацелі
і скавыталі...—
халадзела кроў:
яна была ім і пітвом і хлебам...
Ці маеце што есці?..
Надышлі

з дарог вялікіх шумныя натоўпы,
бушуючы: відовішчаў і хлеба!..
І ўгору падымалі кулакі,
бы пагражалі невядомым страхам,
і калыхаліся –
як збажына пад ветрам...
Ці маеце што есці?..
Прыбрылі
з усіх бакоў нябогі і калекі –
жабрацкія палапленыя торбы
худой дзятвой чапляліся за шыі.
Надзённы хлеб ім быў недасягальны,
таму прасілі проста: што дасце...
Ці маеце што есці?..
Больш ніхто,
ніхто больш не прыйшоў...
Звяры і крумкачы,
натоўпы і нябогі атрымалі,
што прагнулі,
займелі, што хацелі...
А Сэнс усё пытаўся пра спажытак.

Народжаны ад хлеба, прагну хлеба.
Дзе затрымаўся сейбіт,
каб спытаць,
калі маё жніво пачацца мусіць
і што за доля вызначана мне.
Не ведаю –
гляджу і не знаходжу:
у іншых наліваюцца зярняты,
у іншых – плён, у іншых – моц і гонар,
бо неаддзельны хлеб ад чалавека,
і неаддзельнасць гэтая навек.
Мае палі найболей зараслі,
але – авохці – зараслі куколлем:
чаму куколлем і чаму мае?!.–
якая воля так наканавала
і знак які паўздзейнічаў на іх?..

Ніхто не скажа,
скажуць: адбылося,
што зробіш, адбылося, вось і ўсё...
Дзе затрымаўся,
дзе падзеўся сейбіт,
які б размежаваў і растлумачыў:
што мушу жаць, народжаны ад хлеба,
і што такое ўвогуле жніво...
А спелы вецер намаўляў: рыхтуйся,
а поўня нахілялася: рыхтуйся,
і камяні круціліся: рыхтуйся —
рыхтуйся неаслабна да жніва...
Нішто не гіне раптам і бяздонна,
заўсёды застаецца нейкі прынцып,
які сцвярджае жыта і зямля,
нат і тады, калі ўзрасло куколле.

Няма што жаць — а раздзімаю горан,
няма што жаць — а наразаю серп,
няма што жаць — рыхтуюся бяссонна
да выніку, да плёну,
да жніва...
Усё умеюць рукі,
а душа...–
рыхтую да жніва душу:
ў бязлітаснай надзеі выспяляю
і ў скрусе загартоўваю зямной...
Няма што жаць — а тэрмін як наступіць...
Будзь прывітаны сёння і заўжды,
будзь прывітаны блізкі і далёкі,
паглядаў нестае — убачыць,
і сэрца нестае — адведаць,
але цягнуся да цябе надзеяй,
адвечнай несмяротнаю надзеяй:
будзь прывітаны, час жніва.

Адкуль? куды я?..–
свеціць далягляд...

Адкуль? куды?..– вядзе мяне дарога...
Штовечару кладуся на зямлю,
штоpанку падымаюся, каб неяк
прылегчы назусім і не падняцца:
падведзен вынік, скончана жніво...
Што зробіш, адбылося – скажуць людзі...
Пакуль жыву, хачу спасцігнуць сэнс
нябыту і быцця і прызначэння,
бо нездарма вяртаюцца шляхі –
нібы настаўнік паўтарае вучням:
твая дарога у табе самім.
Пасеюць мяне лішняга ў зямлю,
але калі што з асцюкоў палевых
усходзіла, каб жыць і каб жывіць?..
Дзе затрымаўся,
дзе падзеўся сейбіт,
які б нарэшце ўсім расплюшчыў вочы
і сэрца выбавіў з трывогі і тугі
і адказаў, якое зерне ўсходзіць?!.
Наперадзе і ззаду – невядомасць,
якая анічога не гаворыць,
як не гаворыць тлен і пустата...
Дык для чаго ўсё цягнецца дарога,
дык для чаго і розум і вар'яцтва,
дык для чаго ствараць і падымацца,
і разбураць і плакаць для чаго?!.
Народжаны ад хлеба, прагну хлеба –
пакуль жыву, хачу спасцігнуць сэнс
дыханнем кожным, кожнаю крывінкай,
і позіркам, і крокам, і людзьмі.
З нічога паўстаюць не для нічога,
а для жніва – ці выспелю ўраджай?!
Я меркаваў: калі настане час...
А неабходна наставаць самому,
не жнец, а ніва – помню пра жніво...

Як цяжка падымацца ад зямлі,
чаму я не памёр учора,

калі быў каля плёну і ўраджаю...
Увышыні высока і бязважка
цякуць і не спыняюцца аблокі –
як цяжка падымацца ад зямлі...
Прайшлі учора па маім палетку,
па ніве, пабялелай да жніва,
прайшлі учора па прыспелай ніве
зноў тыя самыя, ўсё тыя жабракі.
Тут хлеб... тут хлеб мой...– я крычаў,–
вы атрымалі ўжо сваё, вы атрымалі...
Яны не слухалі, ішлі і рвалі прагна
мае сцяблінны...
А пасля – натоўпы...
Прыбіліся,
брылі нібы з палону
кудысьці вінавата і бязладна
і мармыталі: наш надзённы хлеб,–
і каласы сашморгвалі у жмені...
Тады – звяры...
Панура і трывожна
па збажыне цягнуліся, як быццам
прыпаміналі кут, куды памерці
паспець ім трэба...
Зяпамі зрывалі
і елі зерне разам з асцюкамі...
Пасля нахлынуў грай –
і крумкачы,
нібы сатрэсеныя, ўпалі з-пад нябёсаў,
крычалі: трэба... і вілі з саломы
нязграбныя затуленыя гнёзды...
Заўчасна агаліліся палі,
мой ураджай жніва не дачакаўся
і разабраны плён мой дзе-куды...
Як цяжка падымацца ад зямлі
і жыць наноў, наноў араць і сеяць,
любіць і спадзявацца – ўсё наноў...
Чаму я не памёр учора?..
Навошта чалавеку гэтак многа

адводзіцца і ўвагі і прастору? –
ступай, дзе хочаш, ды не паступайся...
Настане вечар – стомлены кладзецца
заснуць і спаць і ўсё, што ёсць, забыць...
І спіць, і забывае,
                                    але ўранку
яго абудзяць жыць выпрабаванні
і рыхтавацца плёнам да жніва...
Чаму жніво на мой плён не паспела,
паспее зараз – што я пакажу?..
Дзе затрымаўся,
дзе падзеўся сейбіт?..
Адно плывуць аблокі і маўчанне,
аблокі і шматзначнае маўчанне,
разгойданае крыкам крумкачоў,
выццём звяроў, усклікамі натоўпаў
і шэптам жабракоў...
А там, за ім –
як мог яго раней не заўважаць я,
чаму не заўважаў яго раней?!.–
свяціўся незнішчальны голас Сэнсу
і падымаў з зямлі непераможна:
Я хлеб ваш... я ваш хлеб... я хлеб жыцця...–
вяртаючы наноў выпрабаванням,
надзеі,
               выспяванню
                                  і жніву.

# ПАЭМА РАЎНАВАГІ

## І

Пакуль не схаваліся зоры,
пакуль не пагаслі свечкі
і повязь не абарвалася –
падзяліся са мной сабой...
Вецер галініць і лучыць імёны...
У вёсцы...–
хто наказаў мне сюды вяртацца,
так доўга, так безнадзейна,
што ўжо цябе не застану?!.–
у зялёна-жаноцкай вёсцы
расце дзяўчынка,
мая вучаніца,
расце, пакідаючы:
не застане...
к чаму вяртаецца – не застане...
І так глядзяць вочы блакітна,
быццам са смерці,
на вольнае ззянне плыні...
О, як я табе даводзіў:
трэба ісці –
каб захоўваць раўнавагу,
усё выходзячы з лабірынту,
і пры ззянні пазнаць Мінатаўра
і паразіць пры громе...
А на вялізным звоне,
што меўся даносіць малітвы,

нашы слабыя малітвы,
расколіна зеўрала нема...
І тады я заўважыў,
што выйшаў да рэчкі...

II

Падзяліся са мной сабой...
Свечкі ў ззянне пераліліся,
у старыя таполі – ззянне,
у птушыныя гнёзды –таполі,
чалавечая кроў – у повязь...
О трывожнае донарства;
хай адбудзецца чалавек!..
Адчуваю крыві прылівы,
прыліваюся ёй насустрач...
Смерць ніяк не пагасіць свечак...
Набліжаю гнёзды і повязь –
...лабірынт набліжаецца!..
Не ўпусці!..
Я хачу адбывацца табою і промнем,
не хачу – лабірынтам.
Не хачу забіваць,
не хачу быць забітым,
І скарыцца
і ўзяць валадарства –
над табою... над повяззю...–
не хачу.
Даруй чалавек чалавеку!
Абяцана: ...адбудзецца.

III

Мёртвыя зоры звалены ў лабірынце.
Цёмна і страшна.
Малітвы спазняюцца.
Адсюль нам ніколі не выбрысці:
пазначыўся ў нас лабірынт безнадзейны...

Як аб'явіцца?..
Голас крыві
перакулена падае ў неба...
Выліваецца ў рэчку воск...
Аддай, Мінатаўр, нам нашы адбіткі –
кроплі крыві на паперы і лініі пальцаў:
аўтапартрэты...
Не бачым цябе мы,
і знак твой не чалавечы...
І сказаў ён і не аб'явіўся:
«Я – гэта вы...
Не шукайце мяне сваім ворагам:
бо што хочаце вы – я хачу,
ваша шчасце – маё шчасце...
Уладкую неўладкаваных,
памыліўшыхся накірую,
дабрачынных узнагароджу...
Я тасую адбіткі вашы –
быццам вас назіраю,–
і вам уздаю адпаведна...
Я пры вас...
дзеля вас...
неадметны...»
Ды запёкся на воску яго барэльеф.

IV

Абяцана...
А свет,
што прыняў нараджэнне і смерць,
па-ранейшаму запытальны.
І пытаецца па-ранейшаму
чалавек, які судзіць і чыніць:
што ёсць праўда?
Абяцана...
Тасуюцца нашы адбіткі –
зазірае ў іх смерць...–
быццам карткі для слоўніка.

За якімі дзвярыма
ў якім спалучэнні
існуе адзіна-адзінае слова,
якое яшчэ не аб'яўлена,
але абяцана?!.
Тасуюцца нашы адбіткі...
Хто адкажа за нас?..
за таполі?..
за гнёзды?..
за мёртвыя зоры?..
Пакідаю сабе сваё слова...
Абяцана:
нехта адкажа...

V

Прыўзнімаюцца грозныя рулі,
каб абсекчы прамень
і нарэшце спасцігнуць...
нарэшце спасцігнуць –
як утрымліваецца раўнавага
і як губляецца...
Што з табой?!.
Зачыняюцца хаты,
шкарупіны,
гнёзды,
і нікому ніхто не патрэбны,
можа, нават сабе...
Я крычаў
і спыняўшыся грукаў у дзверы:
не спіце!..
(За якімі дзвярыма слова?!.
Чалавек – за якімі?!.)
Не дабудзішся,
не дакрычышся...
...І праменне заззялі свечкі –
утвараешся, як абразы,
ты

у ззянні...–
выліваецца звон!..
Не спіце...
Працінае нябёсы твой голас...
Галасы мёртвых зор...
галасы мёртвых вёсак...
і крывавых адбіткаў нашых –
сярод голасу галасы,
аб'яўляйце,
тлумачце,
даводзьце
з таго боку зямной раўнавагі,
як губляецца раўнавага!..
Не дазвольце, каб суд наш і ўчынкі
апярэджвалі нас,
абмяжуйце
               валадарства наша,
паўстаньце
вартавымі на нашай дарозе.

VI

На мяжы безгалосся,
                              гнёздаў,
                               крыві,
раўнаважачы ўсіх нас,
прамень балансуе,
той ранейшы прамень,
незабіты прамень –
нібы донары ўсе мы
                              і ўсе палучыліся.
Мілая, не канчаткова
засланяюць нас людзі і голле:
раўнавага пераліваецца –
утрымаем яе!..
Аб'яўляецца, быццам гіне,
Мінатаўр сярод нашых аблiччаў,
аб'яўляецца ў лабірынце,

які ў нас вырастаў паступова,
аб'яўляецца і сціскае
непрытомна адбіткі нашы...
Кожны голас узнятага звону,
кожны голас яго знаходзіць,
паражаючы, як вастрыё...
Закіпае пенаю неба...
Гнёзды сыплюцца...
Круцяцца свечкі...
Як нам цяжка...
як цёмна...
як страшна...
Толькі носіцца гнеўны звон...
Не пакінь нас,
не пакідай –
ні цяпер, ні пасля –
раўнавага!..
Але вывядзі і выводзь
з лабірынту...

VII

І тады я заўважыў,
што выйшаў да рэчкі...
І прыпаўшы–казаў:
«Гэта ты...
Ты заснула была і згубілася...
І твой сон ацяняў мяне...
Як мне страшна было...
Паспляталася голле дрымотна,
я хапаю яго – не ўхаплю,
я разводжу яго –
не разводзіцца голле...
Супыняю людзей...
навакольных... сустрэчных...
Ды між рук маіх
людзі праходзілі,
не сустрэўшыся мне...

Як мне страшна было...
Быў адзін я...
Адзін безнадзейна...»
Я далонямі лашчыў ваду –
а яна трапятала і ўздрыгвала
так знаёма... так адчувальна...
так аддана...
                        і ўсё абяцала
больш ніколі не засынаць.

ЗМЕСТ

